ISSN 0320-7579

№ 8/2015(1047)

# Бярозка



№ 8

захапляцца і захапляць

## ІНТЭРВ'Ю ШКОЛЬНАГА ЛЕТА

і расклад чытання на канікулах

## ПОЯС ВІТАЎТА

і касцяная вухачыстка

## УВАСАБЛЕННЕ АНТЫЧНАЙ ГАРМОНІІ

Аляксандр Мікульчык

## УДВУХ, УДЗВЮХ, УДВАІХ

Вершаваныя правілы мовы ад Анатоля Зэкава

## ПАЛЮБІЦЬ ЦЁТКУ

*Арыгінальны спосаб асучаснівання*

Малюнак Анастасіі Журавель,
Мінская гімназія-каледж мастацтваў

# Ферзь і сярэбраная карэта

***Нацыянальны гістарычны музей прадстаўляе***



«Пояс Вітаўта» (умоўная назва ўнікальнага паяснога гарнітура канца XIV — пачатку XV стагоддзя) складаецца з адзінаццаці срэбных круглых пласцін, дэкараваных раслінным арнаментам, выявамі птушак і васіліскаў, спражкі з наканечнікамі і пяці злучальных прамавугольных планак. Агульная вага — 805,4 г. Па легендзе быў падараваны вялікаму князю літоўскаму Вітаўту крымскім ханам Хаджы-Гірэем. Знойдзены падчас раскопак каля вёскі Літва Маладзечанскага раёна ў 1990-я. Занесены ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей з наданнем 1-й катэгорыі каштоўнасці.



Касцяная вухачыстка з выявай музыкі паходзіць з Наваградка. XII стагоддзе.



Адзінае захаванае прыжыццёвае жывапіснае адлюстраванне Льва Сапегі, прадстаўніка старажытнага шляхецкага роду герба Ліс. У розныя гады жыцця займаў пасады пісара, падканцлера і канцлера літоўскага, з'яўляўся віленскім ваяводам і вялікім літоўскім гетманам, а таксама слонімскім, брэсцкім і магілёўскім старастам.



Скрыпка знакамітага італьянскага майстра Джавані Паола Маджыні выраблена ў 1596-м. Набыта ў прыватнай асобы ў 1973-м. Знаходзіцца ў працоўным стане. Такіх скрыпак у свеце засталося каля паўсотні.



Шахматная фігурка ферзя знойдзена ў Лукомлі, датуецца XII стагоддзем. Паказвае чалавека, які сядзіць на авальнай падстаўцы, склаўшы па-ўсходняму ногі і скрыжаваўшы на грудзях рукі. Рысы твару грубаватыя: падбароддзе выступае наперад, нос прыплясканы, ва ўсёй паставе — спакой і ўладарнасць.



Шкатулка сярэбраная ў выглядзе карэты, XVIII стагоддзе, Заходняя Еўропа. Мяркуючы па подпісу, была падорана грузінскай князёўне Кацярыне Батурынай-Менглерыйскай. Знойдзена ў 1988 годзе ў Мінску на мяжы вуліц Валадарскага і Гарадскі Вал падчас будаўнічых прац.

***Дзе гэта можна ўбачыць: Мінск, вуліца Карла Маркса, 12.***

# Да Дня беларускага пісьменства ў Шчучыне

*Конкурс паданняў*

## Легенда пра Шчучын



Калісьці даўно на беразе возера стаяў вялікі палац. Жыў у гэтым палацы багаты пан. Была ў яго дачка Марыся — незвычайнай прыгажосці дзяўчына. Доўгія залацістыя косы спадалі долу, вочы былі сінейшымі за неба, стан тоненькі, бы ў лілеі. А таленавітая якая яна была! Бывала, пойдзе на луг, нарве кветак, спляце вяночак, сядзе на грудочак і завядзе песню. Меладычныя гукі разліваюцца па ўсім наваколлі. Птушкі сціхаюць, жывёлы ўздымаюць галовы, нібы ўслухоўваюцца. Вечаркам прыбягалі на спеў дзяўчаты і юнакі з суседніх вёсак, ладзілі карагоды, танцавалі.

І толькі адзін прыгожы юнак, якога Янкам клікалі, ніколі не танцаваў. Неяк незвычайна і нясмела паглядаў ён на Марысю, але яна гэтага не заўважала. Аднойчы Янка асмеліўся запрасіць Марыську ў карагод. Як толькі дакрануліся яны сваімі далонямі адно да аднаго, адчулі неверагодную радасць душы. Ім здалося, што неяк раптоўна змянілася ўсё: і трава па-іншаму зашапацела, і вербы нібыта заспявалі, і кветачкі-краскі пяшчотна зашапталіся між сабой. А неба ўздымала гэтыя гукі ўсё вышэй і вышэй, напаўняючы чароўным водарам душы юнака і дзяўчыны. І ніхто, акрамя іх дваіх, не чуў гэтай мелодыі, не разумеў слоў, што ціха гучалі з вуснаў закаханых.

Сустрэчы цягнуліся нядоўга. Хутка чуткі аб тым, што панская дачка пакахала простага сялянскага хлопца, дайшлі да пана.

Лютая нянавіць разгарэлася ў душы, загадаў пан схапіць Янку, моцна звязаць ды кінуць у возера. Даведалася пра гэта Марыся, прыбегла да возера, але выратаваць каханага не паспела. Толькі і здолела дзяўчына, што зацягнуць сваю самую журботную песню. Хвалі возера сцішыліся, зоркі зазірнулі ў люстраную гладзь, бедны месячык засвяціў нясмела.

І раптам з глыбіні вады да паверхні павольна выплыла вялікая рыбіна. Тройчы яна ўскінулася над вадою. Луска блішчала срэбрам у святле месяца, доўгі хвост біў па вадзе з неверагоднаю сілаю. Разляталіся ва ўсе бакі кроплі вады і



даляцелі да твару Марысі. Дзяўчына замерла і пачала ператварацца ў прыгожае дрэўца. Косы яе распусціліся, сталі веццем, стан зрабіўся тоненькім ствалом, лісточкі засерабрыліся, а потым пацяклі з іх у ваду празрыстыя слёзкі…

Ператварылася Марыся ў серабрыстую вярбу.

Людзі кажуць, што як толькі ў першыя дні лета поўны месяц заглядае ў люстра возера, незвычайная рыба выскоквае з вады, нібыта хоча дабрацца да берага, а вярба апускае свае галінкі, стараючыся хоць лісточкамі сваімі дакрануцца да лускі рыбы. А яшчэ кажуць людзі, што тая рыба вельмі падобная да звычайнага шчупака, вось толькі луска незвычайна свеціцца.

З той пары і пачалі наша мястэчка называць Шчучын.

Да гэтага часу вакол возера растуць серабрыстыя вербы, а іх кроны заўсёды хіляцца да вады, нібыта імкнуцца прачытаць на яе паверхні гэтую легенду.

*Рэната НОВІК, Дар'я ШАНЧУК,*
*6 клас, гімназія, Шчучын*



# Адкуль пайшлі назвы Тур'я ды Тур'янка

Пры Радзівілах гэта было. Там, дзе сёння стаіць горад Шчучын, рос лес. Называлі яго Шчучынскай пушчай. Пайшлі неяк мужыкі ў той лес па дровы ды не вярнуліся. Казалі, што прапалі яны праз страшнага звера, які па лесе ходзіць. Ніхто гэтага звера не бачыў, але адно аднаму пераказвалі, што ён вельмі вялікі, чорнага колеру, з доўгімі вострымі рагамі. Ні бык, ні карова, хоць і вельмі да іх падобны.

Тым часам жыў на хутары дзівак. Бывае, сядзе на прызбу і сядзіць так дзень, ва ўсё ўслухоўваецца, да ўсяго прыглядаецца. Да людзей дзівак не гарнуўся. Часта было чуваць, што ён то з сонцам размаўляе, то да ветру звяртаецца, а то з птушкамі перасвістваецца.

Пачуў дзівак, што сяляне прападаюць у лесе, нібы праз звера гінуць. І пайшоў ён таго звера шукаць.

Прайшоў тыдзень, бабы ўжо не па сваіх мужыках, а па дзіваку галосяць. І раптам увечары сёмага дня вяртаецца дзівак дадому. Ідзе праз поле, сам сабе ўсміхаецца, сам з сабою размаўляе. Людзі заўважылі яго, выбеглі насустрач, пытаюцца, ці бачыў звера.

І пачаў дзівак расказваць:

— А звер той Турам завецца. Ды і не страшны ён зусім, хоць і вялізная аграмадзіна! Напэўна, пяцьдзясят пудоў важыць. Рогі — па паўметра кожны! Харчуецца ж

толькі травою ды маладзенькімі лісточкамі. Я не ўтрымаўся і спытаўся ў яго па-звярынаму: «Ты хто?» І пачуў у адказ: «Тур — я!»

Паверылі дзіваку ці не — не вядома. Але рэчку, што цячэ каля горада Шчучына, і да гэтага часу Тур'янкай называюць. А хутар, на якім дзівак жыў, назвалі Тур'я.

Вы спытаеце, а дзе ж тады тыя мужыкі прапалі, па якіх бабы галасілі? Дык іх на сплаў лесу Радзівіл пагнаў. І толькі праз пяць гадоў небаракі дадому вярнуцца здолелі.



***Ганна МАІСЕЕВА,***
***6 клас, гімназія, Шчучын***

# Паходжанне назвы вёскі Рэзы



Праўда гэта ці не, але існавалі недалёка адна ад адной дзве вёскі. Нельга сказаць, што гэта былі вялікія паселішчы, але жыло там нямала людзей. Былі яны працавітыя і адданыя сваёй зямлі.

Аднойчы, калі год выдаўся неўрадлівым, жыхары гэтых вёсак не падзялілі адзін невялічкі, але вельмі пладавіты кавалак зямлі. Іх сварка перарасла ў варожасць. З гадамі непаразуменне павялічвалася.

А ў адной з гэтых вёсак жыла невялікая сям'я: маці і два сыны. І вось аднойчы маці наказала малодшаму сыну пайсці ў лес і назбіраць сушняку. Доўга ён хадзіў па лесе, збіраў ламачча і заблукаў. Сам таго не ведаючы, аказаўся на месцы чужых уладанняў. Раптам яго спынілі незнаёмыя людзі — гэта былі жыхары суседняй вёскі. Нядоўга думаючы, яны звязалі хлопца, адвялі ў сваё паселішча і жорстка забілі.

Доўга чакала маці свайго малодшага сына. Старэйшы не знаходзіў сабе месца. Плакала маці, хваляваўся брат. І вырашылі яны сабраць сход, каб вяскоўцы падказалі, як адшукаць юнака. А на сходзе высветлілася, што хлопца забілі. Узброіліся тады людзі віламі ды косамі, рушылі ў суседнюю вёску, а яе жыхары, таксама з віламі і косамі, насустрач выйшлі. Пачалася разня, і толькі тады спыніліся людзі, калі заўважылі, што поле пад імі заліта крывёю іх родных і блізкіх. І авалодала імі вялікая журба.



Вёскі вырашылі аб'яднацца і жыць мірна, дзяліць пажыткі і з павагай ставіцца адно да аднаго. Прайшло шмат гадоў з таго часу, але на разню не забыліся: гэтую агульную вёску так і назвалі — Рэзы.

***Марыя АГЕЛЬ,***
***10 клас, гімназія, Шчучын***

***Мастачка Дана ЦЮПЕРАК,***
***Мінская гімназія-каледж мастацтваў***

# Ля помніка Цётцы

У маіх землякоў, жыхароў Шчучына, любімае месца адпачынку — ля возера, дзе глядзіцца ў ваду палац Друцкіх-Любецкіх, дзе звоняць званы храмаў, што стаяць насупраць, — касцёла святой Тэрэзы і царквы архангела Міхаіла. Побач — дом культуры, ля яго — помнік асветніцы беларускай зямлі Элаізе Пашкевіч, знакамітай нашай Цётцы, якая нарадзілася ў вёсцы Пешчын у фальварку Стары Двор, за 30 кіламетраў ад Шчучына. Помнік устанавілі ў 1986 годзе, калі мяне яшчэ не было на свеце. Але з ранняга дзяцінства разам з матуляй я часта гуляла непадалёку, разглядала скульптуру, любавалася прыгожым, крыху сумным тварам, узбіралася на калені, датыкалася да мармуровай кнігі. Тады я пра Цётку нічога не ведала. Але гэтае месца стала мне блізкім і родным.

Цяпер добра ведаю біяграфію жанчыны, якая стала «песняй у народзе». Захапляюся яе прыгожым, трагічным лёсам. Любуюся пяшчотным імем — Элаіза.

Цётка належыць XIX стагоддзю і ўбірае ў сябе ідэал жанчыны таго часу — адукаванай і выхаванай. Паходзячы з дваранскага асяроддзя, яна разарвала з ім сувязь. А псеўданімы падкрэслілі прыналежнасць яе да народа.

Нейкі час Элаіза Пашкевіч жыла ў Пецярбургу. Вучылася на курсах выхавацеляў і кіраўнікоў фізічнай адукацыі, удзельнічала ў гуртках беларускіх студэнтаў. Яна належала да той лепшай часткі беларускай інтэлігенцыі, якая змагалася за нацыянальную незалежнасць беларускага народа. Менавіта ў Санкт-Пецярбургу ў першым беларускім легальным выдавецтве «Загляне сонца і ў наша аконца» выйшла яе «Першае чытанне для дзетак беларусаў».

З пачаткам Першай сусветнай вайны Цётка пачала, рызыкуючы здароўем і жыццём, працаваць сястрой міласэрнасці ў тыфозным бараку Віленскага ваеннага шпіталя. Цяжкія бальнічныя будні ўпрыгожвала паэзія. Цётка ніколі не пераставала пісаць вершы, яна не толькі змагар-прапагандыст, але і лірык. Асноўныя матывы яе паэзіі — любоў да Радзімы, роднай прыроды, служэнне народу.

У 1905-м пад пагрозай арышту Цётка вымушана была эмігрыраваць. І тут я зноў не магу не захапляцца характарам гэтай цудоўнай дачкі беларускай зямлі. Ва ўніверсітэтах Кракава і Львова яна працягвала вывучаць філасофію, філалогію, гісторыю. Якая прага ведаў, якое імкненне да творчасці і розных відаў мастацтва! Яе ж цікавіла не толькі літаратура, але і жывапіс, музыка, тэатр — яна была артысткай першага нацыянальнага тэатра Ігната Буйніцкага.

Цётка спяшалася жыць. Нібы адчуваючы, што лёс адпускае ёй кароткі век. На саракавым годзе жыцця, у тыфозным бараку, ратуючы людзей падчас эпідэміі, яна аддае за іх сваё жыццё — здзяйсняе вялікі подзвіг.

«Падзвіжнікі патрэбны як сонца», — пісаў Антон Паўлавіч Чэхаў. Гэтыя словы ў мяне асацыіруюцца перш-наперш з Элаізай Пашкевіч. Можа, менавіта таму я вельмі люблю бываць каля возера, побач з помнікам дарагой майму сэрцу Цёткі.

***Яна ВІЛЕНЦІЙ,***
***8 клас, гімназія, Шчучын***

*У гэтым нумары*

***Чытайце ў рубрыцы «Бел.літ.» артыкул пра тое, як палюбіць вершы Цёткі, паклаўшы іх на рэп.***



*Мастачка Анастасія ЖУРАВЕЛЬ,*
*Мінская гімназія-каледж мастацтваў*

# Чароўны свет дзівосных мар

## НАВАЛЬНІЦА

Азарылася неба маланкай,
Загрымеў праз шум горада гром.
Скалануўся закінуты дом,
Ён цяпер не засне і да ранку.

Вакол дома згіналіся дрэвы,
І хавалі галіны ў траву.
Хтосьці ноччу, напэўна, разгневаў
Бога грому, маланкі, агню.

***Данііл ЛЮКЕВІЧ,***
***8 клас, гімназія № 12, Мінск***

## У СІНІ ВЕЧАР ПОЙДЗЕМ МЫ ПАЛЯМІ…

За летуценнямі,
як за начнымі матылямі,
У сіні вечар
пойдзем мы палямі.
Хай травы сонныя
нам ногі заказычуць,
Хай туманы
нас за сабой паклічуць.
Убачыш кветак шмат вакол,
адчуеш водар летні,
Як быццам і не поле тут,
а чараўніцы кветнік.
Хадзем са мной у царства сіняе,
што блізка дзесьці,
Хачу табе я ў валасы
ўсе тыя кветкі ўплесці!

***Анастасія ДАЦЕНКА,***
***10 клас, гімназія № 22, Мінск***

## ШЧАСЦЕ

Шчасце — матуліна ўсмешка,
Позірк родных вачэй,
Шчасце — жыць з вераю ў сэрцы
Ў віры мітуслівых падзей.
Шчасце — спакой душэўны,
Да мары маёй кожны крок.
Шчасце — гэта натхненне
І першы нясмелы радок.
Шчасце, калі пасля спёкі
Лівень усё асвяжае,
Шчасце, калі аблокі,
Птушкі і кветкі натхняюць.
Шчасце — на крылах мары
Трапляць у чароўны свет.

Шчасце, калі побач мама,
Каб ёй даверыць сакрэт…

***Юлія ЯНУКОВІЧ,***
***11 клас, Параф'янаўская СШ,***
***Докшыцкі раён***

## ЛЮБЛЮ ЦЯБЕ, МОЙ КРАЙ!

Люблю твае прасторы,
Блакіт азёр і ціш,
І водар верасковы,
І звон тваіх крыніц.
І светлыя дубравы,
Дзе птушак галасы.
Люблю, як шэпчуць травы,
Сівыя ад расы…
Люблю як пахнуць кветкі
І птушачкі пяюць,
Ялін галінкі ветла
Мяне ў лясок завуць.
Як хораша, цудоўна



*Мастачка Дана ЦЮПЕРАК,*
*Мінская гімназія-каледж*
*мастацтваў*

І сэрца б’ецца ў такт.
І хочацца раптоўна
Мне крыкнуць проста так:
Гэй, Сонейка!
Гэй, Неба!
Гэй, Ветрык!
Дождждык, гэй!
Давайце пасябруем,
Бо разам весялей!

*Анастасія СЯДОВА,*
*3 клас, СШ № 32, Магілёў*

## РОДНАЯ МОВА

О, родная мова!
О, родныя словы!
О, родныя гукі
Радзімы маёй!
Любімыя творы,
Любімыя словы —
Люблю іх
Усёю душой!

Любімыя казкі,
Любімыя вершы
З маленства
Я ў сэрцы сваім берагу.
О, родная мова,
Матуліна мова!
Забыць я ніколі
Цябе не змагу!

*Дар’я БАРОЎКА,*
*8 клас, гімназія № 12, Мінск*

## АКТАВА Ў ПРЫРОДЗЕ

У лесе я люблю грыбы збіраць,
І кветак пах мяне чаруе дзіўны.
Далонь адкрыўшы, сцежкі тут ляжаць,
І птушкі спеў даруюць незабыўны.
Люблю я за прыродай назіраць,
Дзе сонейка і гоман хмар заліўны!
І сапраўды, без песень салаўя
Нам не пражыць ніводнага і дня!

*Крысціна РАВЯКА,*
*8 клас, СШ № 64, Мінск*

## ШЛЯХ

Чароўны свет дзівосных мар…
Куды вядзе жыцця дарога?
Ці ў неба яснае, без хмар?
Ці да маркотнага парога?
Ён будзе светлым, гэты шлях,
Альбо калючым, непраходным?
Ён — урадлівая ралля
Ці стэп, бясконцы і бязводны?
Займальны свет!
Прывабны свет!
У ім — прыгоды і надзеі,
І мноства домікаў-планет
Маленькіх Прынцаў-дабрадзеяў.
Неверагодны гэты свет,
Балюча, часам, можа ўдарыць!
І прынцы з домікаў-планет
З усмешкамі зламаюць мары…
Як адшукаць уласны шлях?!
Шляхоў у свеце вельмі многа…
І кожны — свежая ралля,
І кожны — новая дарога.
Чакае смешны, яркі свет:
У ім — цікавыя прыгоды,
Палёты на хвастах камет
У цёмныя марскія воды.
У свет ісці не страшна мне —
Са мной сям’я, сябры і неба!
І ў надыходзячай вясне
З раллі ўзрасце калоссе хлеба!
Я ўласны свет сама раблю,
Сама дарогі выбіраю!
Бо проста я жыццё люблю,
Бо проста я яго ствараю!

*Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,*
*11 клас, Дворнасельская СШ,*
*Міёрскі раён*

*Ёсць у Гезгалаўскай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна аб'яднанне па інтарэсах «Юны журналіст», якім кіруе Ала Рыгораўна Ненартовіч. Не так даўно сярод яго ўдзельнікаў праводзіўся конкурс пад назвай «Правілы добрых манер». Перамаглі гісторыі пра хлопчыка Мішку і яго сабачку Цюбіка шасцікласніц Насці Ганчарук і Сабіны Пабядзінскай. Некаторыя з гэтых гісторый прапанаваны чытачам «Бярозкі».*



# Вясёлыя гісторыі пра Мішку і Цюбіка



## Мішкава свята

Сабака Цюбік бегаў за Мішкам і зайдросціў яму. Сёння да хлопца прыйдуць госці, бо ў яго дзень нараджэння! Ён паклікаў да сябе дзяцей з класа, а бацькоў дома не будзе, таму аднакласнікі змогуць ўволю павесяліцца.

Прыйшлі госці і ўручылі сябру вялікую скрынку. Мішка схапіў падарунак, хуценька паклаў побач з ложкам у сваім пакоі і кажа:

— Давайце гуляць у хованкі!

— Давай, — пагадзіліся дзеці.

— Я буду вадзіць, — сказаў Мішка і пабег у кухню.

Хлопцы пачалі хавацца хто пад ложак, хто пад канапу, хто за занавеску, хто на балкон, а бялявая Маша прымудрылася забрацца ў камоду з адзеннем.

Воўка залез у шафу, але яму моцна перашкаджала вялікае паліто і ён выкінуў яго з шафы на падлогу. Цімка запоўз пад часопісны столік, але сурвэтка на століку была такой маленькай, што яго было відаць. Цягнуў ён сурвэтку ўніз, цягнуў ды перакуліў вазу з кветкамі.

Тут і Мішка з кухні выйшаў. Вельмі хутка ўсіх знайшоў. Толькі куды Маша падзелася? Шукаў, шукаў, ніяк не мог знайсці.

— Добра, хлопцы, пайшлі за стол торт есці! — сказаў Мішка.

— Торт! Без мяне! — закрычала Маша і вывалілася з камоды. Усе рэчы высыпаліся, але ніхто не звярнуў на гэта ўвагі. Торт быў з'едзены і запіты гарбатай, дзеці сышлі дадому, а Мішка сеў за камп'ютар.

Цюбік, які ўвесь гэты час, як разумны сабака, назіраў за тым, што адбываецца, пачаў гучна брахаць:

— Аднакласнікі стараліся, прынеслі падарунак, а ты нават на яго не зірнуў! — нібыта хацеў сказаць ён сваім брэхам. — І хіба можна пакідаць такі вэрхал? Ох, як мама будзе нервавацца і сердаваць!



# Мішка і Цюбік у лесе

Сабака Цюбік часта вадзіў свайго гаспадара Мішку ў лес на шпацыр. Цюбіку было чатыры гадкі, а Мішку — сем. Але калі перакласці сабачыя гады ў чалавечыя, дык Цюбіку было ажно дваццаць гадоў. Выходзіла, што ён старэйшы і разумнейшы за Мішку.

Цюбік ніколі не сваволіў у лесе. Канешне, ён бегаў за матылямі або вавёркамі, але ніколі не хапаў іх. А Мішка мог і шышкай у вавёрачку запусціць, а прыгожага матыля — страшна казаць — у шкляны слоік пасадзіць і доўга не адпускаць. Мог зламаць дрэўца або вырваць з коранем чарнічны кусцік. Цюбік ніколі не разбураў лясныя мурашнікі, а Мішка мог кійком разварушыць мурашыны дом. Мурашы злаваліся не на жарт і накідваліся на разбуральніка іх хаткі. Яны караскаліся па нагах уверх і кусаліся вельмі балюча.

Ад укусаў усё Мішкава цела гарэла, але Цюбік не кідаў сябра ў бядзе. Ён і па зямлі катаўся, і злосна гаўкаў на маленькіх мурашак, якія спрабавалі гнацца за зладзеем. Цюбік хоць і абараняў гаспадара, але таксама сердаваў на яго.

— Хіба можна прыйсці ў госці і наводзіць свае парадкі? — брахаў Цюбік, а Мішка толькі смяяўся і цягнуў Цюбіка за ланцужок далей ад спустошанага мурашніка, бо зусім не разумеў сабачую мову.

А шкада!



# Як Цюбік Мішку дапамог

Недалёка ад бабулінай хаты працякала рэчка, і аднойчы Мішка вырашыў пайсці налавіць рыбы. З вечара ён падрыхтаваў вуду, вядзерца і прынаду. Раненька, гадзін у пяць, ён устаў, апрануўся і выйшаў з хаты. Але тут убачыў Цюбіка, які ўжо бег побач.

«Будзе бегаць, брахаць і ўсю рыбу мне распалохае, — падумаў Мішка. — Хай застаецца дома!»

Але Цюбік так аддана глядзеў у вочы, што Мішка вырашыў-такі ўзяць сябра.

Мінуўшы некалькі хат, яны звярнулі да рэчкі. Мішка доўга шукаў добрае месца і нарэшце знайшоў. Закінуў вуду і пачаў уважліва назіраць за паплаўком.

Але тут да яго падышлі два хлопчыкі, старэйшыя за яго.









— Гэй, ідзі прэч з нашага месца па-добраму! — крыкнуў адзін.

— Але ж я першы сюды прыйшоў, — спакойна адказаў Мішка.

— Правальвай! — крыкнуў другі хлапчук і кінуўся на Мішку з кулакамі.

Раптам з-за кустоў з грозным брэхам выскачыў Цюбік. На самай справе ён нікога не збіраўся кусаць, а толькі прыстрашыць. Але задзірыстыя хлопчыкі гэтага не ведалі і вельмі спалохаліся. Ды так, што з усіх ног прэч кінуліся.

А Цюбік, віляючы хвастом, падбег да Мішкі.

«Бачыш, я табе ў бядзе дапамог! — нібыта казаў ён. — А ты мяне дома хацеў пакінуць!»

***Насця ГАНЧАРУК***

# Як Мішка з Цюбікам добрыя справы рабілі

Аднойчы Мішка прачытаў цікавую кніжку пра добрыя справы. Кніжка называлася «Цімур і ягоная каманда».

«Мы з Цюбікам чым не каманда? — адразу ж вырашыў Мішка. — Будзем і мы добрыя справы рабіць».

Глянуўшы ў акно, Мішка ўбачыў бабульку з цяжкімі клункамі.

«Трэба дапамагчы!» — вырашыў ён і выбег на двор, а Цюбік следам. Хлопчык прапанаваў бабульцы сваю дапамогу і тая з радасцю згадзілася. Мішка нёс клункі, а сабака скакаў каля яго і з запалам брахаў. «Бачыш, як я табе дапамагаю?» — нібыта казаў ён сваім брэхам. Бабулька падзякавала сябрам і пачаставала іх цукеркамі.

Потым сябры ўбачылі дворніка, які прыбіраў іх двор, вырашылі дапамагчы. Той згадзіўся і выдаў Мішку венік на доўгім кійку і савочак, каб збіраць смецце. Праз некаторы час двор стаў чысты: без апалага лісця, кінутых паперак і бутэлек з пластмасы.

— Якая прыгажосць! — зноўку забрахаў Цюбік.

Сябры вярталіся дамоў шчаслівыя і задаволеныя. Яны зразумелі, што рабіць добрыя справы не толькі карысна, але і прыемна!

***Сабіна ПАБЯДЗІНСКАЯ***

# Мішка і Цюбік у вёсцы

Машына імчала па дарозе, навокал пралятаалі палі, лясы, вёскі.

— Праз паўгадзіны прыедзем да бабулі, — сказала мама і паглядзела на задняе сядзенне, дзе сядзелі Мішка і Цюбік. Мішка быў некалькі разоў у бабулі, а вось Цюбік ехаў да яе ў госці першы раз і вельмі хваляваўся.




Час прайшоў вельмі хутка. Мама звярнула на прасёлачную дарогу і спынілася каля першай хаты.

— Вось і прыехалі!

Госці ўвайшлі ў двор, на парозе іх сустракала бабуля Каця. Яна шчыра ўсміхалася.

— Хто ж гэта да мяне прыехаў? Ах, мае ж вы родненькія! Як даехалі? — засыпала пытаннямі яна, абдымаючы і цалуючы гасцей. — Радасць ты мая! Як жа бабуля сумавала без цябе! Пажывеш у мяне, унучак?

— Канешне, — адказаў Мішка.



— А хто ж гэта з вамі? — спытала бабуля і пачала разглядаць Цюбіка.

— А гэта мой сябар, яго завуць Цюбік! — з усмешкай сказаў Мішка.

Бабуля паклікала за стол, але Мішка ўзяў Цюбіка за ланцужок і пабег хутчэй на двор.

— Гэй, жэўжык! Прагаладаешся, вяртайся.

— Добра, — на хаду адказаў унук і пабег у сад, дзе яшчэ ў мінулым годзе пабудаваў шалаш. Зараз ад яго і знаку не засталося. Мішка засумаваў, прылёг пад дрэвам і пачаў марыць, як ён зноў пабудуе шалаш, можа, нават домік на самым высокім дрэве ў садзе. Ад мар яго адарвала скавытанне Цюбіка. Той, як шалёны, бег да сябра.

— Га-га-га! Бал-бал-бал! Кра-кра-кра! Кко-кко-кко-ко-ко-ко-ко! — неслася яму ўслед. Чырвоны ад злосці індык нібыта крычаў: «Балда! Балда! Балда!». За ім беглі гусі, раскінуўшы крылы, і злосна шыпелі, а за імі — чарадой куры ды качкі. Цюбік скочыў на рукі да Мішкі, а той, што ёсць моцы, пабег да дзвярэй хаты. Зачыніўшыся, закрычаў:

— Бабуля, ратуй!

— Што здарылася? — запытала бабуля.

— Яны хочуць нас з’есці, — хвалюючыся адказаў Мішка, прыціскаючы да сябе Цюбіка, які вельмі дрыжаў. — Паглядзі ў акно!

Бабуля паглядзела за акно і ўсміхнулася:

— І хто ж гэта пайшоў без дазволу на птушыны двор, можа, яшчэ і ў куратнік вырашыў наведацца?

— Гэта не я, — адказаў Мішка. — Гэта, пэўна, Цюбік вырашыў пазнаёміцца з мясцовымі жыхарамі, ён вельмі любіць скакаць і весяліцца.

— Я ўсё зразумела, — адказала бабуля. — Па-першае, ён без дазволу пайшоў на птушыны двор, па-другое, парушыў там спакой і парадак. Усе курачкі, гусачкі, індыкі і качкі ведаюць адно аднаго «ў твар», і калі з’яўляецца чужынец ды яшчэ скача, як шалёны, брэша і качае яйкі, нібыта гэта мячыкі, мала яму не пакажацца! Вось яны і выганялі чужынца са свайго двара, бо паводзіў сябе як свавольнік! Заўтра ўстанем раненька і я пазнаёмлю вас са сваёй птушынай гаспадаркай.

Цюбік скруціўся абаранкам на Мішкавым ложку і праз сон падумаў: «Трэба будзе заўтра папрасіць прабачэння за свае паводзіны».

*Насця ГАНЧАРУК,*
*Сабіна ПАБЯДЗІНСКАЯ*

*Мастачка Дана ЦЮПЕРАК, Мінская гімназія-каледж мастацтваў*





Заяўка на Парнас

# Падарожжа Залацінкі

У сярэдзіне лета ў дупле старой ліпы нарадзілася пчолка Залацінка. Яна расплюшчыла вочкі і ўбачыла, што знаходзіцца ў цесным пакоі, сцены якога аддаюць слабым матавым бляскам. Праз дзверцы над галавой да яе даходзіў роўны гул. Пчолка захацела выйсці і ўперлася галавой у дзверцы. Яны не хацелі паддавацца. Залацінка спалохалася, што застанецца тут назаўжды, і ад адчаю пачала грызці дзверы. Адтуліна рабілася ўсе большай і большай, пчолка праціснулася вонкі і апынулася ў цэнтры светла-жоўтых сотаў. Ва ўсе бакі радамі разыходзіліся пакоі-ячэйкі. Паўсюль сноўдалі, не сутыкаючыся і не замінаючы адно аднаму, дзясяткі тысяч абсалютна аднолькавых пчол.

Спачатку маладой пчале давяралі толькі работы ў дупле, але Залацінка чакала і не магла дачакацца, калі ёй давераць самую складаную і неабходную пчаліную працу. З раніцы, як толькі пачне ўзыходзіць сонца, яна разам з іншымі пчоламі-выведнікамі павінна адправіцца на пошукі нектару і пылку. Пчолы-выведнікі разлятаюцца ў розныя бакі ад свайго жытла на многія кіламетры, і кожная з іх імкнецца знайсці як мага больш корму.

І вось такі дзень настаў!

Ледзь толькі неба на ўсходзе пачало святлець, Залацінка ўжо чакала каля лятка, і як толькі першы прамень асвятліў верхавіну векавой ліпы, яна ўзмахнула крыльцамі і ўзляцела.

Залацінка не пабаялася цяжкасцей і накіравалася супраць ветру.

Ляцець было складана. Парывы ветру кідалі яе з боку ў бок. У пчолкі ўжо заканчваліся сілы, калі ўнізе ля ручая паказаўся луг, пакрыты яркімі, прыгожымі кветкамі. Знізу на маленькую пчолку глядзелі тысячы аранжавых вочак, акружаных беласнежнымі пялёсткамі. Пчолка села на адзін рамонак, потым на другі, пераляцела на трэці, але нектару было мала, і быў ён не вельмі смачным. Залацінка працягвала лётаць уздоўж ручая ў пошуках іншых, больш карысных кветак.

Раптам на яе з густой травы скокнула нешта вялікае, зялёнае і лупавокае з велізарным раскрытым ротам. Залацінка ледзь вывернулася ад жудаснай жабы і ад спалоху ўзляцела так высока, што ўбачыла вялікае бела-ружовае поле. Пчолка паляцела да яго і чым бліжэй падлятала, тым мацней адчуваўся прыемны, дурманлівы водар. Мільёны белых з ружаватым адценнем кветак раслі на полі. Кожная кветка была поўная нектару. Пчала пералятала з кветкі на кветку і радасна напявала:

— Колькі кветачак наўкол, вельмі смачны будзе стол!

Хутка набраўшы нектару, Залацінка паляцела дадому. Вецер цяпер дапамагаў ёй.

Апынуўшыся на сотах, пчала стала бегаць і кружыцца. Пчолы, якія сёння павінны былі збіраць нектар, паглядзелі на яе танцы і зразумелі, у які бок і на якую адлегласць трэба ляцець. Яны шумна вылеталі з лятка і накіроўваліся ўдалячынь. Стомленая Залацінка ўладкавалася адпачыць.

«Ці пашанцуе мне заўтра? — думалася ёй. — Але ж я пастараюся!»

***Вікторыя ПЛЯСКАЧ,***
***9 клас, СШ № 4, Мар’іна Горка***

# Начныя вандроўнікі



Прывітанне, дружа!

Мінулай ноччу да мяне на агеньчык заляцела Аманда — прывід-калега з пенсільванскай бібліятэкі Эндру Бейна. Мы слаўна пагаманілі, успамінаючы добрых знаёмых, «перацерлі костачкі» знакамітасцям…

Безумоўна, сярод прывідаў сустракаюцца свае «зоркі»!

Як ні дзіўна, самым папулярным прывідам у свеце з'яўляецца не чалавек, а карабель — Лятучы Галандзец. Яго назіраюць ля паўднёвых берагоў Афрыкі і па сёння, праўда, заўсёды на вялікай адлегласці. Апісваецца ён як старое патрапанае судна з ветразямі, што плыве над вадой перад бурай. Некалі капітан галандскага судна Філіп ван дэр Дэкен забіў саперніка і, ратуючыся ад пераследавання, паспрабаваў у буру абмінуць мыс Добрай Надзеі. Ён пакляўся, што ніхто з яго каманды не сыдзе на бераг, пакуль ён не абміне «гэты чортаў мыс», чым і наслаў праклён на сябе і сваіх людзей. З той пары карабель вымушаны вечна бадзяцца па акіяне. Ёсць версія, што капітан можа выходзіць на бераг раз на дзесяць гадоў роўна на суткі, і калі ён за гэты час знойдзе дзяўчыну, якая добраахвотна пагодзіцца стаць яго жонкай, то праклён знікне.

З'яўленне Лятучага Галандца часта тлумачыцца міражом над паверхняй вады.

Прывідамі бываюць не толькі караблі, але і цягнікі, нават гарады! А на дарогах Вялікабрытаніі і Ірландыі можна сустрэць Чорных Сабак — прывідную зграю калматых істот памерам з цяля, з чырвонымі палаючымі вачыма і аскаленай клыкастай пашчай. Іх бачаць недалёка ад рачных і марскіх берагоў або на могілках. Па некаторых паданнях сабакі лічацца добрымі вестунамі, могуць праводзіць уночы дамоў дзяўчат або вывесці з лесу заблукалае дзіця. Небяспечныя яны толькі для злыдняў і злачынцаў.

Некаторыя эзатэрыкі* тлумачаць з'яўленне Чорных Сабак тым, што ў гэтых месцах праходзяць магнітныя паралелі. Іншыя лічаць, што сабакі — гэта энергетычны адбітак сабак, што жылі ў гэтых месцах раней, а з'яўленне гэтых адбіткаў абумоўлена метэаралагічнымі з'явамі. Трэція кажуць, што гэта самыя звычайныя сабакі. А ў страху, як ведаем, вочы вялікія.

Наступным разам я распавяду табе пра беларускую «зорку» ў свеце прывідаў — Чорную Панну. Трымайся!

***Твой прывідны сябар Аркаша.***

---

** Эзатэрыкі — гэта людзі, якія ўспрымаюць рэальнасць па-асабліваму: праз магію, алхімію, астралогію і іншыя так званыя «псіхадухоўныя практыкі».*



# Граніт, дынаміт і шляхцянка

Аднойчы, чытаючы лекцыю па літаратурна-мастацкай крытыцы студэнтам пятага курса факультэта журналістыкі БДУ і распавядаючы пра літаратурны працэс Беларусі нашаніўскага перыяду, я раптам спыніўся і запытаў у аўдыторыі: «Спадарства, падыміце, калі ласка, рукі тыя, хто любіць паэзію Цёткі, Алаізы Сцяпанаўны Пашкевіч».

І, вы не паверыце (альбо шчыра паверыце), я не ўбачыў аніводнай узнятай рукі, затое пачуў ціхуткі смех і ўбачыў крыху сарамліва-здзеклівыя ўсмешкі студэнтаў, без пяці хвілін журналістаў. Уявіце сабе толькі: Цётка, класік беларускай літаратуры, творчасць якой не падабаецца нікому сярод шматлікай плыні ўніверсітэцкай аўдыторыі гуманітарнага напрамку.

Ведаеце, я паверыў сваім студэнтам і быў удзячны ім за шчырасць. І злавіў сябе на думцы, што калісьці, яшчэ школьнікам, потым ліцэістам і, нарэшце, студэнтам, я таксама не любіў паэзію спадарыні Алаізы Пашкевіч (цьфу, прабачце, Цёткі і толькі Цёткі, бо, упэўнены, паэтка скрывілася б і абурылася ад шляхетнага звароту «спадарыня» альбо «пані»).

І зноў жа раптам мне прыйшла ў галаву думка, а хутчэй, спосаб (нібы азарэнне!), як палюбіць, дакладней, рэанімаваць паэтычную спадчыну Цёткі. І гэты спосаб я агучыў. І — зноў жа — шаноўныя чытачы, вы не паверыце, але студэнцкая аўдыторыя згадзілася са мною і цяпер ужо паверыла «спосабу» рэанімацыі.

Але, стоп! Я захаваю інтрыгу і літаральна ў адным сказе (альбо ў двух — няважна) распавяду вам, шаноўныя, пра «ЯК-палюбіць-Цётку» ў самым фінале маіх размоў пра… ну вядома ж, пра ўсё тую ж нелюбімую Цётку. (Спадзяюся, праз гэтую неспадзяванку ў вас будзе нагода дачытаць гэты тэкст да канца).

А цяпер вельмі каротка, тэзісна і канспектыўна пералічу па памяці ўсё тое, што ведаю пра Цётку я, не літаратуразнаўца, але, як і яна, паэт і колішні летуценна-лянівы школьнік ды старанны студэнт, які назаўжды прапісаў ПАЭЗІЮ ў сваім сэрцы. Ну, пачынайма:

- шляхцянка;
- шляхцянка адукаваная (скончыла Віленскую прыватную сямікласавую вучэльню В. Прозаравай. У 1902—1904-х вучылася на вышэйшых адукацыйных курсах П. Лесгафта ў Пецярбургу, а таксама на філасофскім факультэце Львоўскага ўніверсітэта);
- псеўданімы: Гаўрыла ці Гаўрыла з Полацка, Мацей Крапіўка;
- рэвалюцыянерка, актыўны барацьбіт з царызмам;
- арганізатарка партыі БСГ (Беларуская сацыяльная грамада);
- вандроўніца: Нямеччына, Аўстра-Венгрыя, Італія, Швецыя, Фінляндыя…
- лірык;
- выдатны эсэіст;
- першая актыўная беларуская феміністка;

…і ўсё? Не! А што яшчэ?




Яна, неверагодна прыгожая і неверагодна адзінокая, прапанавала нам адметны і непаўторны шлях развіцця як нацыі. Вам не падабаюцца вершы Цёткі? А вы зірніце на яе постаць як на агмень — убачыце, якой яскравай і неадназначнай яна была. Была і ёсць для нас — БЕЛАРУСАЎ — нашай цёткаю (адмыслова пішу з малой літары), нашай Сваячкай, проста нават цётухнай, якая паспрыяла нацыянальнаму адраджэнню значна больш за нейкага там… за нейкага там.

А цяперака сакрэт «ЯК». Як жа ж палюбіць, рэанімаваць паэтычную творчасць Цёткі.

Тады, даўнавата ўжо, я сказаў студэнтам: «У вас ёсць, пэўна, знаёмыя музычныя гурты, што выконваюць рэп? Дык вось, прапануйце ім — гэтым гуртам — праспяваць вершы Цёткі. Ну, хаця б… "Веру беларуса" — і ўбачыце, як гэтая "кульгавая", спаланізаваная і такая "несучасная паэзія" загучыць і сучасна, і актуальна, і модна».

Студэнты згадзіліся…

***Арцём КАВАЛЕЎСКІ***


Ксенія Сасніна

# Хто прыдумаў дарослых

## Дзіцячы свет Марыі Пар

Нарвежская дзіцячая пісьменніца Марыя Пар праславілася дзякуючы творам «Вафельнае сэрца» і «Тоня Глімердал». Прычым, «Вафельнае сэрца» — гэта дэбют Марыі, які адбыўся ў 2005 годзе. «Тоня…» напісана чатырма гадамі пазней. Марыя была добра прынята крытыкамі, атрымала некалькі ўзнагарод і мянушку «другая Астрыд Ліндгрэн».

Творы гэтай пісьменніцы вяртаюць у дзяцінства. З цяплом і гумарам яна распавядае пра свавольствы сваіх маленькіх герояў, якія даведваюцца пра навакольны свет з кожным днём усё больш. Назіраючы за перажываннямі дарослых, дзеці вучацца берагчы сяброўства і шанаваць блізкіх людзей.

Марыя Пар піша кнігі пераважна для падлеткаў, праблемы якіх хвалююць пісьменніцу, таму яна імкнецца адлюстраваць іх у сваіх кнігах. Але дарослыя любяць чытаць яе творы не менш, чым дзеці, бо хто не сумуе па дзяцінстве? Дык чаго чакаць? Трэба чытаць!




«Вафельнае сэрца»

### ЦЫТАТЫ З КНІГ МАРЫІ ПАР

- Хто толькі прыдумаў гэтых дарослых! Што яны ўвогуле сабе дазваляюць — цягаюць за сабой дзяцей з месца на месца, калі дзецям гэтага зусім не хочацца!
- Лена не ўмее быць у спакоі, у яе няма да гэтага таленту.
- Цяжка зразумець, як хутка прыйдзе зіма, таму што яна пачынаецца спакваля. Але надыходзіць дзень, калі мама кажа, каб я надзеў пад штаны калготкі, і гэта значыць, што зіма на парозе.
- Амаль што ўсе дарослыя нашай вёскі спяваюць у змешаным хоры. Зме-

шаным ён завецца таму, як патлумачыў нам тата, што тыя, хто ўмее спяваць, перамяшаны з тымі, хто спяваць не ўмее.

• Яна прыгатавала сабе свой фірменны сняданак, настолькі шкодны для здароўя, што гатаваць яго можна толькі калі нікога няма дома.

• Я ніколі раней не задумваўся, для чаго патрэбны таты. У пошуках якой-небудзь ідэі я прыўстаў на дыбачкі і зазірнуў за агароджу. Тата з вельмі чырвоным тварам лаяў на чым свет дурны праект. Адразу і не зразумееш, нашто ён мне.

— Таты — яны ядуць вараную капусту, — нарэшце сказаў я.

• Дзіўна, такі разумны чалавек, а не разумее, якое гэта пакаранне — хадзіць у вязаным швэдары.

• У бабы-цёткі самае вялікае і гарачае сэрца, якое я толькі ведаю. У яе наогул усяго адзін недахоп — яна вяжа на прутках.

• Маці Лены, на шчасце, прывыкла быць маці Лены, таму такія здарэнні не выбіваюць яе з каляіны.

• Сядзець на канапе ў бабы-цёткі і есці гарачыя вафлі пад шум дажджу на вуліцы — лепш за гэта на свеце няма нічога. Я паспрабаваў успомніць што-небудзь лепшае, але не ўспомніў.

• Вясну нельга спыніць, нават калі тваё ўласнае жыццё ідзе наперакасяк.

• Яна так сумавала без яго, што дзіўна, як усё ж такі не памерла.

• Тоня верыць, што Бог стварыў яе цётак у добры дзень.

— Ствару-ка я сюрпрыз, — сказаў Бог і стварыў яе цётку.

• Дзіўна, але звычайна ўсё атрымліваецца так, як кажа маці.

• Яна ляжыць, і ёй амаль дрэнна ад думкі, як добра ёй хутка будзе.

• Тоня склала рукі і вельмі сур’ёзна сказала:

— Божа, прашу цябе, паклапаціся аб усіх, каго мучаць любоўныя пакуты, асабліва аб Гунвальдзе, бо што ж ён грае ў альтанцы на скрыпцы зімой па начах. Амін. І яшчэ, — дадала яна, — гэтыя хлапчукі... Не, добра, ну іх. Амін.




«Тоня Глімердал»

• Тоня часта пытае сябе, пра што думалі мама з татам, калі ўлюбляліся. Здаецца, яны не думалі ні пра што.

• Бог прыдумаў усё так выдатна, што сама Тоня не прыдумала б лепш.

• — Гунвальд, калі ты памрэш, я цябе заб’ю, — кажа Тоня.

• Дзеці ні ў чым не вінаватыя... Ні ў чым. Усе глупствы дарослыя робяць самі.

# Рэпартаж са школьнага лета



Сёння, 9 чэрвеня, я прачнуўся ў сем трыццаць. Раніцы! На гэты незвычайны ўчынак мяне падштурхнула размова з суседкай, цёткай Ленай, якая працуе ў нашай школе. Учора яна спяшалася на працу, якая пачынаецца а дзявятай.

— І навошта спяшацца? — здзівіўся я. — Канікулы ж. Няма куды вам спяшацца, нармальныя дзеці яшчэ спяць.

— А табе чаму не спіцца? — усміхнулася цётка Лена ў адказ.

— У мяне форс-мажор — на рыбалку з сябрамі збіраемся.

— І ў мяне форс-мажор — сёння ў адзінаццатым экзамены. Матэматыку здаём.

— Здаём? А вы тут пры чым?

Пагаманілі хвілін пятнаццаць і разышліся. Цётка Лена ў школу, а я — на рыбалку. Пакуль сядзеў на беразе ў чаканні сваёй рыбіны, успомніў пра размову. Аказваецца, школа і летам жыве напоўніцу. Зразумелая справа — экзамены, практыка, рамонт. Нездарма 1 верасня школа сустракае нас пры поўным парадзе — падлога блішчыць, клумбы стракацяць.

Значыць, цэлае лета кіпіць праца. Рамонт. Зборка новай мэблі. І яшчэ лагер для маленькіх. Здаецца, я ўсё пералічыў. Ці не? Апошняя думка не давала спакою і вечарам. А ноччу я, заўзяты рэпарцёр нашага прэс-цэнтра, прыняў рашэнне: узяць інтэрв'ю ў школьнага лета. Хопіць разменьвацца на банальнасці! Час пераходзіць да глабальных рэспандэнтаў. Але ж і ідыётам выглядаць не хацелася. Дыялог са школай: не, ну вы гэта бачылі?! Таму і вырашыў устаць раней. Сказана — зроблена. І вось я на ганку роднай школы. На гадзінніку без пяць восем. Цішыня. Хіба што птахі пакрыкваюць у лісці старых ліп.

— Прывітанне, родная! Не сумуеш?

— О, Паша, прывітанне! Чаго прыйшоў?

Я разгубіўся. Не чакаў, што так вось, адразу адказ пачую. Мо не прачнуўся яшчэ? Ды не, бадрачком. Але каб школа…

Перавёў позірк на акно. Ганна Міхайлаўна!

— А вы што тут…

— Ды вось, адпачынак сустракаю. Падвойнай ударнай працай. Сёння з вучнямі кабінет упарадкуем, кветкі па хатах разнясём. Не прападаць жа зялёным пітомцам у летнюю спёку. Ну, і кнігі ў бібліятэку здаць трэба. Мы цяпер трэцякласнікі!

Прапанаваўшы сваю дапамогу і атрымаўшы ў адказ: «Самі справімся, не маленькія», я пажадаў сваёй першай настаўніцы поспехаў і накіраваўся за рог школы, адкуль даносілася падазрона знаёмае «ж-ж-ж». Так і ёсць: у дворыку працуе газонакасілка.

— А ты што думаў? — пытаннем на пытанне адказаў Станіслававіч, слынны школьны ўмелец, майстар на ўсе рукі. — Траву тыдзень не пакасі — без газона застанемся. Быллём парасце. А ён жа нам даўся нялёгка.

І праўда, нялёгка. Мы з хлопцамі ледзь не ўвесь красавік пасля школы штодня гэты газон да толку даводзілі. То сеялі, то трамбавалі, то падсявалі, то птушак ганялі. Затое цяпер вакол школы дыван з чыстага смарагду. Ёсць чым ганарыцца!

— Мо дапамагчы?

— Малы яшчэ. З механізмамі толькі дарослым працаваць дазваляецца. Ты ў школу ідзі, там вольныя рукі цяпер патрэбныя.

У сталоўцы кіпела праца. Ясная справа — летні лагер харчуецца. На сталах — мая любімая тварожная запяканка і бананы з яблыкамі. Жывуць жа людзі!

— Стараемся дагадзіць, — падміргвае мне галоўны школьны кармілец Алег Віктаравіч. — Дзеці ж адпачываць прыходзяць, а які адпачынак без смачнай ежы? Замаўляем паболей гародніны і садавіны, гатуем любімыя дзіцячыя салаты, запяканкі.

— А кнэлі? — успомніў я сваю любімую школьную страву.

— Абавязкова! І не толькі кнэлі. Што замаўляецца, тое і гатуем.

— Смачна? — пытаюся ў малога, што завітаў у сталоўку.

— Ммм.. — хітнуў галавою хлапчына, за абедзве шчакі ўплятаючы тварожны ласунак. — Лагер у нас супер!

— І чым жа ён табе падабаецца?

— Спартландыі, экскурсіі і басейн! — выдаў той, не задумваючыся. — Запісвайся! Не пашкадуеш.

— А нам гурткі падабаюцца, — піскнула дзяўчо насупраць. — Я ў тэатральны хаджу, і ў «Юны кнігалюб», а Танечка — у «Рукадзельніцу».

— Прывітанне, Паша, — заўважыла мяне Алена Анатольеўна, дырэктар лагера. — Да нас?

— Не зусім, я проста зазірнуў. Па справах…

— Шкада, у нас у старэйшым атрадзе хлопчыкаў не хапае. Дзяўчынкі ў вольны час важатымі ў малодшых атрадах, а хлопчыкі ў працоўнай брыгадзе.

— Што значыць: у вольны час? У нас жа канікулы…

— Вось менавіта. А старшы атрад у нас у першай палове дня ў навукі паглыбляецца. Настаўнікі-прадметнікі заняткі праводзяць. Потым удзельнічаеш у агульных мерапрыемствах…

Мо і сапраўды запісацца? Хаця ў мяне былі іншыя планы… Але…

Пакінуўшы сумненні на вечар, іду далей.

У калідоры другога паверха падлеткі цягаюць мэблю.

— Да рамонту рыхтуемся, — кажа на прывітанне Таццяна Мікалаеўна, наша матэматычка. — Учора выбіралі з бацькамі ламінат для падлогі, спыніліся на

беленым дубе. Павінна атрымацца прыгожа. Але спачатку са столлю разбяромся. І свяцільнікі заменім. На энергазберагальныя. Вучымся быць гаспадарамі.

У музеі рыхтаваліся да экалагічнага форуму. У бібліятэцы складвалі падручнікі. Дзяўчынкі-сямікласніцы выносілі з кабінета біялогіі расаду для кветніка.

Спускаюся ў спартыўную залу. Опанькі! Вы калі-небудзь бачылі дырэктара школы ў тапках і з вядром? Я — упершыню ўбачыў.

— Прывітанне, Ала Іванаўна. Дапамагчы?

— Добрай раніцы, Павел. Можаш дапамагчы, — Ала Іванаўна ўсміхнулася і працягнула мне вядро з фарбай. — Нясі ў дзявочую раздзявалку.

— Вы таксама рамонтам занятыя?

— Даводзіцца. Тут асвятленне не вельмі, цяжка фарбу падабраць. А хочацца, каб дзяўчынкам спадабалася. Трымайце. І каб пасля не перафарбоўваць.

— Ёсць! — казыраюць у зляпаных фарбай бейсболках настаўнікі фізкультуры. — Не падвядзём!

Зазіраю на мужчынскую палову. Сцены радуюць вока прыемнай сінню. Нядрэнна. Гэта мой любімы колер, значыць, добры настрой перад урокамі фізкультуры будзе забяспечаны.

Развітваюся з дырэктарам у калідоры. Іду далей.

Завучы карпяць над новым раскладам. Псіхолаг размаўляе з бацькамі новага вучня. На стале ля акна шыльдачка: «Ціха! Ідуць экзамены». Пераводжу позірк на настаўніка рускай мовы.

— Рана яшчэ! — усміхаецца Ларыса Васільеўна. — Пачынаем а дзявятай. Праз паўгадзіны зачыняем дзверы на трэці паверх. Выпускнікам патрабуецца цішыня.

Зазіраю ў свой клас. Чысціня і парадак. Рамонт мы сёлета не плануем: здолелі зберагчы кабінет у нармальным стане.

Спускаюся, адзначаючы ў холе прыгатаванні да рэканструкцыі гардэроба.

Выходжу ў двор. Дзяўчынкі-сямікласніцы на чале з настаўнікам біялогіі ўжо паспелі высадзіць сімпатычныя пурпурныя сульфініі на клумбу перад уваходам. Прыгожа атрымалася, трэба будзе сфатаграфаваць на памяць: у нас кожны год новы кветнік. Адзін аднаго лепей.

Праходжу паўз спартыўную пляцоўку, дзе юныя інспектары дарожнага руху праводзяць заняткі велашколы. На стадыёне хлапчукі ганяюць мяч. Ля сталоўкі разгружаюць фургон. Відаць, нешта смачнае прывезлі.

Гляджу на гадзіннік: восем дваццаць. Трэба ж, а быццам дзень прайшоў. Успамінаю графік практыкі свайго класа. Нядоўга засталося. А мо не чакаць? Працы на ўсіх хопіць. Такое ўжо яно, школьнае лета. Рознапланавае. Карыснае. І вельмі цікавае.

— Да пабачэння, — кажу школе. — Хутка зноў зазірну. Састаўлю табе кампанію.

Школа ўсміхаецца ў адказ чыстымі вокнамі, хітра паблісквае сонечнымі зайкамі, што капошацца ў толькі што палітых кветках. Відаць, ёй сумаваць не даводзіцца. Нават летам.




Подпіс рэдактара

*Павел АРОДЗЬ,*
*СШ № 12, Гродна*



# Ганарымся нашымі прадзедамі — абаронцамі радзімы!

*Летапіс адной сям'і ў чатырох частках*

Мы хочам расказаць вам пра сваіх продкаў, якія абаранялі нашу Радзіму ад ворагаў.

I

Наш прапрадзед Кобец Антон Ніканоравіч удзельнічаў у Руска-японскай вайне (1904—1905), а потым — у Першай сусветнай (1914—1918). На жаль, цяпер ужо не ўзнавіць падрабязнасцей, але наш тата, калі быў маленькім, часта слухаў апавяданні пра тыя войны. Запомнілася яму, што «япошкі былі росту невялікага, але адважныя», хоць супраць нашага казака выстаяць не маглі. Войны ў той час у асноўным вяліся халоднай зброяй (шашкамі, шаблямі), і ад умення ёй валодаць залежала жыццё. Антон Ніканоравіч адважна ваяваў і меў узнагароды.

II

Наш прадзядуля Кагут Іван Трафімавіч (люты 1921, Украіна, Вінніцкая вобласць, сяло Пірагоў) удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. Спачатку быў размеркаваны ў кавалерыю, але потым патрапіў у авіяцыю. Ён быў стралком-радыстам. У яго абавязкі ўваходзілі сувязь з зямлёй і абарона самалёта. Шмат фашысцкіх самалётаў знішчыў прадзядуля са сваім экіпажам. Але ў адным з баёў на прыканцы вайны прадзядулеў самалёт быў падбіты. Амаль увесь экіпаж загінуў, а сам ён атрымаў моцную кантузію. Пасля шпіталя дактары не дазволілі лётаць, але прадзядуля не мог расстацца з са сваімі баявымі таварышамі і стаў авіямеханікам. Хто глядзеў стары фільм пра лётчыкаў «У бой ідуць адны старыя», памятае немаладога механіка, якому камандавалі «От винта!» («Ад шрубы!») і які з бацькоўскім клопатам ставіўся да маладых лётчыкаў...

Прадзядуля дайшоў да Берліна і ў дзень Перамогі 9 мая 1945 года пакінуў свой подпіс на сцяне пераможанага Рэйхстага.

Шмат у прадзядулі медалёў. І «За Узяцце Берліна», і «За ўзяцце Варшавы», і многія іншыя. Але самыя галоўныя — «За баявыя заслугі» і ордэн «Айчыннай вайны».

Пасля Перамогі ён вырашыў застацца вайскоўцам, паступіў у ваеннае вучылішча і стаў афіцэрам Ваенна-паветраных сіл. Прадзядуля служыў у розных гарадах Савецкага Саюза і нават за мяжой, у Аўстрыі.

Апошнім месцам службы быў Бабруйск, у якім дыслацыравалася шмат воінскіх падраздзяленняў, у тым ліку авіяцыйны полк.

Пасля звальнення са службы Іван Трафімавіч працаваў у раённым ваенным камісарыяце, быў актыўным удзельнікам Савета ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.

Паколькі прадзядуля быў сіратой і рос без бацькоў, ён вельмі любіў дзяцей, спрабуючы даць ім душэўную цеплыню, якой быў пазбаўлены сам. І пасля выхаду на пенсію пайшоў працаваць у дзіцячы садок. Каля яго майстэрні пастаянна круціліся малыя. Хтосьці дапамагаў яму патрымаць дэталь, хтосьці цёр наждачкай ручку швабры... І кожны за дапамогу атрымліваў «прыз»: магніт ад мапеднага рухавіка, самаробны паплавок для рыбалкі і іншае.

III

Другі наш прадзядуля, Подзораў Уладзімір Іванавіч (13 студзеня 1925 Украіна, Данецкая вобласць, Макееўка) таксама быў лётчыкам (штурманам).

Сям'я ў яго была вялікая — ён быў трынаццатым, і, каб не «сядзець на шыі» ў бацькоў, у 16 гадоў пайшоў з дому.

Ён з'ехаў у Казахстан і паступіў вучыцца ў Лётную школу, а па яе заканчэнні — у ваеннае вучылішча ў Чалябінску. Там ён вучыўся на штурмана і бамбардзіра. Вывучаў лётную навігацыю і бомбакіданне. Вучыцца тады было складана, бо не было нават калькулятараў, і ўсе вылічэнні даводзілася рабіць у галаве.

Пасля заканчэння вучобы ён быў залічаны ў дзеючую армію.

У маі 1945-га прыйшоў мір, але і пасля вайны трэба было абараняць спакой Радзімы. Ніхто не адважваўся прама нападаць на СССР, але па ўсім свеце ўзнікалі лакальныя ваенныя канфлікты за права першынства на сусветнай арэне. Прадзядуля Вова ўдзельнічаў у баявых дзеяннях у рэспубліцы Емен, Анголе і іншых месцах. Лётаў на зямлю Франца-Іосіфа, разам з таварышамі абсталёўваў лядовы аэрадром, выпрабоўваў новую тэхніку і віды ўзбраенняў, ажыццяўляў трэніровачныя палёты з дазапраўкай у паветры.

Прадзядуля Вова быў асабіста знаёмы з многімі касманаўтамі, нават з Юрыем Аляксеевічам Гагарыным, першым касманаўтам. Справа ў тым, што атрад лётчыкаў дальняй авіяцыі, дзе служыў Уладзімір Іванавіч, праходзіў трэніроўкі ў Энгельсе разам з атрадам касманаўтаў.

Ужо ў мірны час ён атрымаў некалькі высокіх урадавых узнагарод, самыя галоўныя з якіх — ордэн «Баявога чырвонага сцяга» і два ордэна «Чырвонай Зоркі».

Службу сваю наш прадзядуля Вова таксама скончыў у Бабруйску. У яго была магчымасць выбіраць любы горад на карце Савецкага саюза, але яму спадабаўся Бабруйск, тут ён і застаўся жыць.

IV

Нашы дзядулі — Фандо Аляксандр Афанасьевіч і Падзораў Сяргей Уладзіміравіч — таксама служылі ў войсках: адзін у мотастралковай часці, другі — у зенітна-ракетнай. Наш тата, Падзораў Павел Сяргеевіч, тэрміновую службу праходзіў у верталётнай эскадрыллі Ваенна-паветраных сіл Рэспублікі Беларусь.

Мы вельмі ганарымся сваімі продкамі. Усе яны — сапраўдныя Мужчыны!




Подпіс рэдактара

***Антон і Андрэй ПАДЗОРАВЫ,***
***Магілёў***

# Шайморы

— *Вы елі калі-небудзь шайморы?* — пытаецца Яраслаў Пархута і запэўнівае: — Калі, маўляў, не, то сапраўднай цаны бульбы не ведаеце.

Ты, дружа, мо не чытаў пра іх нідзе, дык я табе распавяду, а дакладней, перакажу прачытанае ў Пархуты.

Шайморы — гэта бульба, толькі перамерзлая. У гады, калі не было чаго есці, дзеці выходзілі вясною ў поле і вышуквалі ў зямлі гэтую бульбу. Дарослыя неяк прыладжваліся гатаваць з яе блінцы ды клёцкі. Блінцы пякліся на сухой патэльні, без аніякага алею ці шмальцу, «нішчымна». А клёцкі патрэсквалі на зубах пясчынкамі. Але і такая ежа была радасцю.

Навошта я табе пра гэта распавядаю, калі ты можаш пайсці ў «МакДональдс» і купіць бульбу фры або набыць у кавярні піражнае «Бульба», пасыпанае апетытным крошывам, з завітком сметанковага крэму? На гэта ёсць, самае малое, дзве прычыны. Па-першае, каб ты, дружа, калі жывеш у горадзе, пацікавіўся, як людзі ў вёсках капаюць бульбу. Ці не цяжкая гэта справа? Мо і ты маеш каму дапамагчы? Успомні і паклапаціся. Па-другое, нават у наш негалодны час варта ставіцца да ежы ашчадна. Не справа гэта, калі на вячэру варыцца поўная каструля бульбы, якая і напалову не з'ядаецца і выпраўляецца з-за гэтага ў сметніцу. Справа тут не ў тым, што нехта недзе ў далёкай краіне ў гэты самы час галадае, а ў тым, што не боскія гэта стасункі са светам і самім сабой.

Дыетолагі, вядома, сцвярджаюць, што страву лепш не разаграваць, што лепш кожны раз гатаваць свежае. Маюць рацыю. А мы што? А мы нічога. Мы і згатуем свежае: бульбянае печыва, у рэцэптуру якога ўваходзіць халодная вараная бульба!

***Бярэш***

8—10 буйных вараных бульбін (добра астыўшых), паўтары шклянкі мукі (можна не вышэйшага, а першага гатунку — так смачней), тры яйкі (жаўточкі ад бялкоў асобна), чвэрць цаглінкі сметанковага масла, соль, кунжут і кмен.

***Што далей***

Націраеш бульбу і сметанковае масла на тарцы, змешваеш з жаўточкамі, соллю, кменам і мукою, замешваеш вельмі крутое цеста і дзеліш яго на пяць роўных кавалкаў. Кожны кавалак расплюшчваеш скалкаю ў тонкі блінец і наразаеш квадратамі. Выкладаеш квадраты на процівень, змазаны алеем і прыцярушаны мукою, змазваеш зверху яечнымі бялкамі і пасыпаеш кменам і кунжутам. Ставіш у духоўку і чакаеш, раз-пораз зазіраючы ў яе: калі ўжо тое печыва зарумяніцца?!

Выдатны варыянт для суправаджэння не толькі гарбаты, але і супу, булёну, халадніку.

Смачна есці!

***Літаратурны кулінар Улад БЯРОЗКІН***



Юлія Куліпа,
11 клас, гімназія № 2,
Гродна

# Сцежкамі алімпіяды

Жыццё чалавека — бясконцая гонка, барацьба, чарга цяжкасцей і ўзнагарод за змаганне. Адзін выбірае шлях найменшага супраціўлення, другі ідзе дарогай выпрабаванняў. Але я чалавек другога тыпу. Адным з іспытаў для мяне стала алімпіяда па беларускай мове і літаратуры.

Я з пачатковай школы прымала ўдзел у алімпіядным руху. Эх, тады яшчэ не ведала, у якую кругаверць трапіла… Бо нельга адмаўляцца ад абранага шляху, трэба быць верным сваім мэтам.

Кожны год я старанна рыхтавалася, бо хацела не проста ўдзельнічаць, а дэманстраваць вынікі. Але ў час вучобы ў сярэніх класах у маім жыцці існавала не толькі навука — я займалася яшчэ і спортам. З дзяцінства бацькі прывілі думку, што чалавек павінен развівацца living рознабакова: фізічна, інтэлектуальна і, безумоўна, духоўна. Мо я і пакутавала з-за гэтай рознабаковасці. Колькі разоў мне хацелася кінуць усё! Адны людзі казалі, што беларуская мова — гэта не маё, другія — што трэба выбраць нешта адно: ці спорт, ці алімпіяду. Але мне было цяжка пакінуць каманду. І я не магла адмовіцца ўдзельнічаць у алімпіядзе.

Ведаеце, ніколі не верыла ў наканаванне лёсу. Была ўпэўнена, што ўсё залежыць толькі ад чалавека. Але я мела рацыю толькі напалову. Летам перад пачаткам адзінаццатага класа я каталася на веласіпедзе, упала і зламала правую ключыцу… таму была вымушана сказаць спорту «бывай». Як ні дзіўна, але менавіта гэты выпадак і вырашыў мой лёс. Я пачала больш старанна рыхтавацца да алімпіяды па беларускай мове.

І вось даведваюся, што прайшла «на вобласць». Упершыню за столькі гадоў працы! Мне вельмі гэтага хацелася, таму не вылазіла з кніжак. Калі спачатку рабіла ўсё з думкай «трэба», то потым алімпіядная мітусня пачала падабацца. Мне было цікава чытаць тэорыю літаратуры і выконваць разам з настаўніцай шматлікія лінгвістычныя заданні павышанай цяжкасці. Мая маці ўжо не памятала такога вечара, калі б я не сядзела за кнігамі, не пісала або не вучыла.

Вось прыйшоў час абласнога этапу. Я вельмі хвалявалася, бо вышэйшай узнагародай быў дыплом, які даваў шанец атрымаць сто балаў на цэнтралізаваным тэсціраванні па беларускай мове.

На алімпіядзе прысутнічалі тыя, хто ўдзельнічаў не ўпершыню. Ім была знаёмая гэтая атмасфера, многія нават адзін аднаго добра ведалі. А я была чала-

векам новым, з-за чаго моцна хвалявалася. Атрымала дыплом другой ступені. Здавался б, што ў гэтым дрэннага? Але мне было крыўдна, што зусім крышку не дацягнула да стабальнага сертыфіката. Хацелася ўсё кінуць: «Навошта працаваць, калі найлепшага выніку не атрымліваецца», — думала я. Але настаўніца разважліва пагаварыла са мной, і я зразумела, што самае складанае яшчэ наперадзе: прайшла «на рэспубліку»… Не ведала, ці радавацца мне, ці плакаць, але зразумела: трэба вучыцца яшчэ больш старанна.

Пачала хадзіць на зборы. Там пазнаёмілася з іншымі алімпіяднікамі, з тымі, хто ўдзельнічаў і ў мінулыя гады. Мы  нават пасябравалі. Калі я пыталася ў іх, ці ёсць шанец «узяць дыплом на рэспубліцы», многія адказвалі: «Давай не будзем пра сумнае». Для сябе я вырашыла, што маёй мэтай будзе не перамога, а проста паказаць свае магчымасці.

Праходзілі дні і месяцы, наблізіўся канец сакавіка — час вясновых канікул, майго дня нараджэння і алімпіяды. Усёй камандай нашай вобласці мы выправіліся ў Мінск. Я вырашыла, што трэба выкарыстаць гэты час максімальна прадуктыўна. Пасля тураў алімпіяды дзякуючы арганізатарам мы мелі насычаную праграму: музеі, тэатр, канцэрты. У сталіцы ёсць на што паглядзець. Уражанні — найлепшыя. Праўда, туры моцна стамлялі, ды і нервы не давалі супакоіцца. Пасля кожнага конкурсу (а іх было тры: водгук на мастацкі твор, комплексная работа і вуснае выказванне) мы аналізавалі, што зрабілі так ці не так. Часам увечары ўсе былі ў дрэнным настроі, бо, як кажуць, «усе ўсё завалілі».

І вось наступіла пятніца пасля доўгага цяжкага тыдня іспытаў, дзень вынікаў, дзень ці шчаслівай перамогі, ці разбуральнага расчаравання. Мы сядзелі ў зале, перапоўненай людзьмі. Першымі пачалі аб’яўляць тых, каму не хапіла крыху балаў да месца, тых, хто атрымаў «пахвальны водгук». У гэты момант мне здавалася, што лепш ужо нічога не атрымаць. Але недзе глыбока ў душы я чакала і верыла…

Вось пачалі выклікаць дыпламантаў трэцяй ступені. Прыслухоўваюся да кожнага імені — майго няма…  І раптам чую сваё прозвішча. «Толькі б не заплакаць ад шчасця», — думаю. Перапоўненая эмоцыямі, іду на сцэну па свой доўгачаканы дыплом. Мне даюць паперу з залатымі літарамі. Здаецца, я ўпершыню адчуваю такое шчасце. І радасна асэнсоўваю, што нездарма старалася, нездарма некалі, у чацвёртым класе, далучылася да алімпіяднага руху.

Ужо калі ехала ў цягніку ў родны горад, глыбока задумалася… Так хутка праляцела алімпіяда. Але калі б не тыя доўгія гадзіны, што праводзілі са мной мае любімыя настаўнікі, калі б не падтрымка з боку бацькоў і сяброў, ведаеце, я б нічога не здолела дасягнуць. Адзінокі чалавек — слабая істота. Толькі наша асяроддзе лепіць з нас асобу, яно змяняе нас і дапамагае разабрацца ў сабе. Таму мне хочацца сказаць усім тым людзям, што былі побач у такі вызначальны для мяне момант жыцця, вялікі дзякуй — за цярпенне і за тое, што ў мяне верылі.

Хацелася б пажадаць усім ставіць у сваім жыцці мэты і дасягаць іх. Не трэба палохацца цяжкасцей — яны нас толькі загартоўваюць. Бо няма нічога горш за бязмэтнае жыццё. Паміж роўнай сцежкай і той, што віецца ўгару, выбірайце другую, бо ўсе намаганні заўсёды ўзнагароджваюцца — такі закон прыроды, Божы закон.


Аляксей Мухля,
кіраўнік клуба даследчых
экспедыцый «Выток»

# Бусел, лялька, чарнагуз

Край лясоў з дрэвамі вышынёй больш за дваццаць метраў — іх родная хата. Балоты прасторныя, дзе змей і жаб на ўсіх хопіць, — іх сталоўка. Гэта птушкі вялізныя, колеру белага і чорнага, а ногі і дзюбы ва ўсіх чырвоныя — браты яны стрыечныя.

У сярэднявечных зборах артыкулаў пра рэальных і фантастычных жывёл, Бестыярыумах, мы сустракаем розныя найменні бусла: Боцан, Буск, Бачан, Пеларгос, Марабу, Ябіру, Асіда, Хасіда, Сцерх, Чарнагуз, Бацьян, Бусел, Лялека... Славянскі Лялека прыносіць дзетак — лялек, менавіта гэтым абумоўлена трапяткое і ласкавае стаўленне да бусла беларусаў. Акрамя таго, са старажытнасці ў беларусаў ёсць татэмічны звычай называць буслоў мужчынскімі імёнамі: Адам, Багдан, Іван, Мацвей, Кандрат, Лук'ян, Тарас, Якаў, Рыгор, Васіль...

*КАЛІ ЎБАЧЫШ ПЕРШАГА БУСЛА…*

*Бяжы за ім, прысядай, куляйся — каб не балелі ногі.*

*Катайся па зямлі, прыхінайся да дрэва або плота — каб не балела спіна.*

*Завяжы вузел — каб не бачыць змей.*

Гэта блізкасць чалавека да бусла нарадзіла мноства легенд, адна з якіх — пра паходжанне бусла ад чалавека, распаўсюджана ў Беларусі, Польшчы, Украіне і паўночна-заходняй Балгарыі, заключаецца прыблізна ў наступным: калі Бог убачыў, якую шкоду чыняць людзям чарвякі і змеі, ён сабраў іх у мяшок і загадаў кінуць яго ў мора, у агонь, закапаць у яму або занесці на высокую гару. Цікаўны чалавек развязаў мяшок — і ўся нечысць распаўзлася па зямлі. У пакаранне Бог ператварыў чалавека ў бусла, каб ён збіраў і знішчаў змей, жаб і іншых гадаў ды ачышчаў ад іх зямлю. Ад сораму ў бусла пачырванелі нос і ногі. Азадак пачарнеў ад таго, што раззлаваны Бог адхвастаў бусла дубцом, аперазаў распаленым жалезам або штурхнуў ў бруд.

Яшчэ адна народная легенда распавядае гісторыю, у якой тлумачыцца, чаму ў буслоў крылы чорнага колеру. На саламянай страсе дома, у якой жылі бацька, маці і двое немаўлят, месцілася гняздо буслоў. Аднойчы дом загарэўся, чырвоныя языкі полымя слізганулі па сценах на дах. Буслы захваляваліся, пачалі крычаць і клікаць гаспадароў, але тыя сышлі далёка і крыкаў не пачулі. Птушкі кінуліся ў ахоплены полымем дом і вынеслі з агню немаўлят. Менавіта з таго часу кончыкі крылаў у буслоў чорныя. А што ногі і дзюба чырвоныя — дык гэта ад апёкаў.

А зараз даведаемся пра некаторыя таямніцы роднасных сувязей белага і чорнага бусла. Чаму такое ж адметнае становішча ў паданнях чалавека не заняў чорны бусел? Апошні, несумненна, таксама быў у старажытнасці татэмам, як і мноства іншых птушак. І ёсць цікавая легенда пра тое, як белы бусел ператварыўся ў чорнага.

Жылі ў вёсцы два браты. Малодшы быў сумленным і працавітым, а старэйшы — злым і лянівым. Калі да старэйшага брата на дах прыляцеў бусел, той прагнаў яго. Малодшы ж не толькі ўзрадаваўся птушцы, але і прымацаваў на даху кола, каб можна было пабудаваць гняздо. З тых часоў у меншага і ўраджай стаў лепшым, і карова пачала даваць больш малака, і сыны раслі здаровымі, не хварэлі.

Старэйшаму ж не шанцуе ні ў чым. То хлеб град паб'е, то вераб'і вішні паклююць, то болька якая прычэпіцца. Праняла яго чорная зайздрасць, вырашыў адпомсціць брату. Аднойчы, калі ўсе спалі, падпаліў яго хату. Першымі перапалохаліся буслы, абудзілі гаспадароў. Драўляная хата згарэла хутка, але ўсё-ткі паспелі выратаваць сям'ю і сякія-такія пажыткі. Толькі вось маленькіх буслікаў выратаваць не ўдалося. Сталі людзі думаць, якая ж прычына пажару. Раптам чуюць у двары старэйшага брата нейкі шум, крыкі. Бачаць: наляцела на яго пара чорных буслоў, б'е крыламі, дзяўбе дзюбамі. Зразумелі ўсе — ён падпаліў. Думалі людзі, што чорным апярэнне ў буслоў стала ад сажы і куродыму. Чакалі, што адмыюцца яны і зноў стануць белымі прыгажунамі. Але ішоў час, а птушкі заставаліся чорнымі. І зразумелі людзі, што пачарнелі яны ад гора, як сівеюць людзі. З таго часу гняздуецца чорны бусел далей ад людзей.

*Ляціць бусел — нясе здароўе, жвавасць, ураджай, замужжа.*

*Стаіць — будзе высокім лён.*

*Убачыць парачку буслоў — к замужжу або нараджэнню дзіцяці.*

*Калі падчас сустрэчы з першым буслом у цябе ў кішэнях ёсць грошы або ключы — гэта абяцае табе багацце. А пустыя кішэні — да страт.*

Буслоў любяць і паважаюць не толькі ў нас. Грэкі лічаць іх сімвалам любові да бацькоў, бо ёсць легенда пра маленькага бусліка, які, дачакаўшыся бацькоў з палявання, аддаў ім самы смачны кавалак ежы і вырашыў, што будзе заўсёды ім дапамагаць, каб яны больш не стамляліся і не пакутавалі ад працы. І грэкі ж казалі, што буслы слугуюць багам. Напрыклад, Гермес (заступнік вандроўнікаў) перамяшчаецца па небе ў калясніцы, запрэжанай чарадой буслоў.

Шумеры лічылі бусла зямным увасабленнем бажаства Эн-ліля (бога Неба), у славян — Лёля (бог Кахання, мясцовы калега Купідона і Амура). У міфалогіі краін Усходу, майстрамі ёгі і каратэ буслы шануюцца за іх мерную хаду і здольнасць доўгі час нерухома стаяць на адной назе.

У індаарыйскіх народаў была шырока распаўсюджана легенда, што душа пасля смерці чалавека адпачывае ў нейкім месцы, а праз пэўны час адраджаецца ў адным са сваіх нашчадкаў. У славян гэта месца — Вырай, дзе душа знаходзіць сустрэчу з продкамі і шчасце. У беларускай мове да гэтага часу захаваўся выраз: буслы ў вырай ляцяць.

*У ЗАХОДНІХ СЛАВЯН ЛІЧАЦЬ, ШТО…*

*Калі дзяўчына чуе, як трашчыць дзюбай бусел, які толькі што вярнуўся з-за мора, то што-небудзь абавязкова разаб'е.*

*Калі дзяўчына ўбачыць бусла, які ляціць з-за мора, то наканавана ёй ехаць у вясельным экіпажы.*

*Калі яна ўбачыць бусла, які стаіць, пра яе пойдуць плёткі.*

Славяне лічылі, што буслы прыносяць з Выраю вясну — новае жыццё, а восенню зноў забіраюць цяпло — перамяшчаюць душы памерлых назад у Вырай. Такім чынам, нашы продкі лічылі бусла «транспартным сродкам» для душ і ўсяляк яго ахоўвалі. Паводле балгарскіх і македонскіх паданняў у гэтай далёкай заморскай краіне буслы купаюцца ў чароўным возеры і становяцца людзьмі. Увесну, выкупаўшыся ў іншым возеры, яны зноў набываюць птушынае аблічча і ляцяць назад.

Старажытныя жыхары Палесся, дрыгавічы і радзімічы, як вы памятаеце, у адпаведнасці з міфалогіяй таксама верылі ў сваяцтва бусла і чалавека. Такія веraванні прыводзілі да татэмізму, адным з вынікаў якога стала беларуская нацыянальная вопратка. Яна мае колеры апярэння буслоў. Вытанчаны арнамент чырвонага колеру адпавядае канечнасцям і дзюбе. Акантоўка мае чорны колер, што падкрэслівае нязначнасць цёмных сіл у менталітэце беларусаў. Асноўны колер нацыянальнага касцюма беларусаў — белы — сведчыць пра перавагу дабра. Нашы продкі праз буслоў атрымалі легендарную якасць свайго характару — цярпімасць. Яны лічылі, што бажаства (Бусел або яго душа) можа выклікаць град, лівень, вецер, буру, прыносіць у дзюбе іскру, ад якой паўстане усёпаглынальны пажар. Павер'і пра бусла, што прыносіць агонь і выклікае буру, абумоўлены старажытнымі ўяўленнямі пра сувязь гэтай птушкі з Перуном, богам навальніцы, грому і маланкі.

*Крык першага бусла, пачуты вясной на галодны страўнік, — не да дабра, ён можа прадвесціць бітыя гаршчкі на працягу года.*

Сучасныя школьнікі разумеюць гэтыя павер'і з навуковага пункту гледжання, яны ведаюць, што бусел ва Усходнюю Еўропу вяртаецца з гарачай Афрыкі вясной, а пакідае родныя мясціны восенню. Натуральна, што старажытныя славяне звязвалі змену пор года з гэтай яркай, прыкметнай птушкай, бо не мелі іншай інфармацыі, затое мелі добрае ўяўленне.

Перапынак

# Хованкі

Вядучаму завязваюць вочы і ён павінен «усляпую» дакрануцца да аднаго з удзельнікаў. Тыя ж уцякаюць ад яго, не выходзячы за межы пляцоўкі, і абавязкова падаюць голас: называюць імя вядучага, альбо крычаць: «Я тут!»

Той, да каго дакрануўся вядучы, мяняецца з ім ролямі — сам становіцца вядучым.

Аўтар рубрыкі Ліна Багданава

Мастачка Анастасія ЖУРАВЕЛЬ, Мінская гімназія-каледж мастацтваў

Для абмеркавання на класнай гадзіне

# Летняя дылема

Чэрвень праляцеў на другой касмічнай. Яны нават не паспелі схадзіць у запланаваны з вясны паход: класную раптоўна накіравалі на курсы ў сталіцу. Ды і не ў адной класнай справа. Неяк не склалася ў чэрвені. Некага адправілі ў вёску да бабулі. Нехта ўладкаваўся працаваць. Некаму пашчасціла з пуцёўкай у санаторый. Ды і з надвор'ем не пашанцавала.

Раніцай Аню разбудзіў тэлефонны званок. Зірнула на гадзіннік: без чвэрці дзевяць. І каму спатрэбілася?

— Соня-засоня! Так усё лета і праспішь.

Спрачацца з Алькай не хацелася. Пацягнулася і зноў заплюшчыла вочы.

— Кыс, кыс… — паклікала шэптам ёрка Пусечку.

— Ты там жывая? — спытала аднакласніца.

— Угу, — прамармытала Аня.

— Хрм, брм… — канстатавала Пусечка.

Алька падрабязна анансавала шпацыр у лес, ініцыіраваны трыма выпадкова сустрэтымі ў тралейбусе аднакласнікамі. Нічога асаблівага: вечарам робім закупкі, выязджаем на электрычцы раніцай. Месца ведае Вадзік: недалёка ад станцыі і дачнага пасёлка, блізка ад возера. Ёсць мангал і альтанка. Хлопчыкі бяруць капы і музыку. Дзяўчынкі дбаюць пра меню. Сняданак, абед, полудзень. Вячэраць будуць ужо дома. У праграме рыбалка, водныя (калі пашанцуе з надвор'ем) працэдуры, пляжны валейбол. Што тут думаць?

Насцярожвала іншае: Алька заявіла, што хлопцы бяруць піва.

— А чаго здзіўляцца, у сёмы пераходзім. Практычна дарослыя.

Пусечка насцярожана глядзела на гаспадыню. Лізнула шчаку. Уздыхнула, зразумеўшы, што Ані не да яе. Адпаўзла.

— І параіцца ж няма з кім, — дзяўчынка гладзіла сабачку. — Мама не зразумее. Тата накладзе на прагулкі забарону. Дзяўчынкі абсмяюць.

Яна добра разумела, што заўтрашні пікнік пацягне за сабой непрыемнасці. Самыя розныя. Мо прыдумаць прычыну, самую пераканаўчую, і не паехаць? А што будзе з сяброўствам?

Гарбата падалася горкай, а хлеб — чэрствым.

***Сімпатулька:***

— Люблю пікнікі! Пастарайся апрануцца ў нешта незвычайнае. Зрабі экстравагантную прычоску. І не забудзься пра фоцік. Зычу добра правесці час! З півам — асцярожна. Небяспечная, скажу табе, рэч. Я не ўжываю, але чула.

***Шкодная вучылка:***

— Дакаціліся! Трынаццаць гадоў, а ўжо пра піва думаюць! Усіх у школьны лагер, на тры змены! Што за дзеці пайшлі! Абавязкова пазвані мне!

***Прасунуты старшакласнік:***

— Ні ў якім разе не згаджайся! І іншым перадай: сёмы клас і піва — несумяшчальныя! Тут можа дайсці да алкагольнай комы, чалавек страціць прытомнасць — і што вы будзеце рабіць пасярод лесу? «Хуткая» пакуль да вас дабярэцца… Калі не пераканаеш аднакласнікаў, зрабі ход канём: вазьмі з сабой бацькоў. Ці хаця б паведамі ім. Не лепшы ўчынак у вачах сяброў, але гэта лепш, чым бяда. Мая парада: тэрмінова прыдумай, якую можна прапанаваць альтэрнатыву.

***Вопытны псіхолаг:***

— Пазіцыя першая: ты едзеш і бярэш удзел у дэгустацыі піва. Плюсы практычна адсутнічаюць. Калі ўсё раскрыецца, ваша сяброўства можа не вытрываць, а ў школе, акрамя непрыемных выхаваўчых уздзеянняў, чакае перамена стаўлення да кожнага з вас. Пазіцыя другая: ты едзеш, але ад піва адмаўляешся. Дзіўна, але і тут няма ніякіх плюсаў. Бацькі будуць раз’юшаны — іх дачка ў такой кампаніі, пра сяброўства можна гаворку не весці — адмову табе не даруюць, не той выпадак. Ну, а калі ў школе даведаюцца… Мне можна не працягваць? Пазіцыя трэцяя: ты знойдзеш прычыну і не паедзеш. У сям’і, магчыма, усё застанецца ў парадку. Пры ўмове, што бацькі не даведаюцца пра прыгоды тваіх сяброў. Інакш яны забароняць табе з імі сустракацца і значна абмяжуюць тваю свабоду. Сяброўства: мяркуй сама — наўрад ці твая адмова пройдзе незаўважанай. Так, пакрыўдзяцца. І абсмяюць. Школа: педагогі прымаюць тваю кампанію як адно цэлае, не ўсе будуць раскладаць гэты эпізод па палічках. Вось-вось. Што рабіць? Прымі параду прасунутага старшакласніка. Менавіта яго пазіцыя выйграе па ўсіх крытэрыях. І яшчэ адзін плюс: калі здолееш знайсці выдатную альтэрнатыву, твая вага ў кампаніі значна ўзрасце. Як наконт лідарства? Засталося праявіць крэатыўнасць. Удачы!

# Праабражэнне

## Чытаем ікону



***«Праабражэнне», 1648 год, Маларыта, невядомы майстар. Нацыянальны мастацкі музей.***

***Штогод напрыканцы лета, 19 жніўня праваслаўныя вернікі адзначаюць адно з буйнейшых хрысціянскіх святаў — Праабражэнне Гасподняе.***

Кожнае вялікае царкоўнае святкаванне — гэта ўзгадванне важных падзей у зямным жыцці Ісуса Хрыста ці Божай Маці. Адна з такіх падзей адбылася незадоўга да таго, як Ісусу належыла адправіцца ў Іерусалім на добраахвотную хрэсную смерць. Перад гэтым Ён, узяўшы трох сваіх бліжэйшых вучняў, — Пятра, Іакава, Іаана — падняўся на гару Фавор і праабразіўся перад імі. Гэта значыць, што вучні ўбачылі Ісуса ў змененым, іншым стане: не як звычайнага чалавека, а як Бога. Ад твару Збавіцеля зыходзіла неверагоднае Боскае ззянне. Яго вопратка стала светлай, нібы сатканай з тысячы сонечных праменняў. А побач з Ім, на вяршыні гары, з'явіліся дзве постаці з іншага свету: прарок Ілля і прарок Маісей. Гаварылі яны з Ісусам аб Яго будучых пакутах, хрэснай смерці і ўваскрашэнні. У гэты момант Пётр, Іакаў ды Іаан пачулі голас Бога, які ім сказаў, што перад імі

Яго Сын, і Яго трэба слухаць! Пачуўшы гэта, спалоханыя вучні пападалі на калені і схіліліся тварам да зямлі. А праз некаторы час, калі паднялі вочы, то нічога неверагоднага ўжо не заўважылі. Ісус у звычайным выглядзе падышоў да іх, суцешыў ды даў загад нікому не казаць, што яны бачылі, да таго моманту, як Ён не ўваскрэсне з мёртвых.

Якраз гэтая падзея адлюстравана на старажытным беларускім абразе «Праабражэнне». Гэта ікона была створана ў 1648 годзе ў мястэчку Маларыта, на тэрыторыі сучаснай Брэсцкай вобласці. Прозвішча мастака не захавалася, таму навукоцы ўмоўна завуць яго «Маларыцкі майстар». Калі мы прыгледзімся да іконы, заўважым, што героі гэтай падзеі таксама не падпісаны імёнамі. Але іх будзе даволі лёгка вызначыць. У цэнтры размешчана гара Фавор, на вяршыне якой стаіць Хрыстос у светлых вопратках, а постаць Яго зіхаціць Боскім ззяннем. Па баках ад Яго, на ўзгорках, — святыя прарокі. Мы можам лёгка знайсці прарока Маісея па таблічках з дзесяццю запаветамі ў руках, бо некалі менавіта ён атрымаў іх ад Бога і перадаў людзям. Пад гарою мы бачым уражаных цудам вучняў. Паспрабуем вызначыць іх асобы. Вядома, што самым малодшым з вучняў Хрыста быў Іаан — ён у чырвонай вопратцы. У Іаана быў родны брат Іакаў. Шукаем падабенствы твару з Іаанам і знаходзім іх у вучня ў цёмна-чырвоным адзенні. Паміж Іаанам і яго братам Іакавам знаходзіцца Пётр. А што гэта за група людзей з аднаго боку ўзыходзіць на гару, а з другога сыходзіць? Гэта Ісус Хрыстос з трыма вучнямі. Спачатку Ён вядзе іх на гару, а потым сыходзіць з імі з гары. Гэта кажа пра тое, што падзеі, якія трапляюцца на жыццёвым шляху веруючага чалавека, заўсёды з'яўляюцца натхненнем крочыць толькі наперад!

***Дзмітрый САЛОДКІ,***
***навуковы супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея***

## Малітваслоў

***МАЛІТВА ПАЧЫНАЛЬНАЯ***

*Госпадзі Ісусе Хрысце,*
*Сыне Божы, дзеля*
*малітваў Прачыстае*
*Тваె Маці і ўсіх святых,*
*памілуй нас. Амінь.*
*Слава Табе, Божа*
*наш, слава Табе.*

## МАЛІТВА — РАЗМОВА З БОГАМ

Бог не мае патрэбы ў нашых малітвах, але Ён любіць нас і таму слухае і прымае іх. Мы молімся не для таго, каб паведаміць Богу нешта. Бог ведае ўсё наша жыццё, нашы ўчынкі, думкі і намеры, а таксама ўсе нашы жаданні і патрэбы. Мы молімся, каб быць з Богам, каб на Ім засяродзіць сваю волю, свае думкі і пачуцці і каб, з'яднаўшыся з ім у малітве, выконваць Яго святую волю. Молячыся свядома і пераканана, мы выказваем малітвай нашу веру ў тое, што мы самі і ўсё, што з намі адбываецца, залежыць ад Бога.

***З прадмовы «Пра малітву»***
***протаіерэя Сергія ГАРДУНА да кнігі «Праваслаўны малітваслоў»***




Што такое царква-крэпасць? Многія, напэўна, задумаюцца. Царква — гэта пабудова, дзе людзі моляцца Богу. А крэпасць — дзе бароняцца ад ворагаў. Ці магчыма іх паяднаць у адно цэлае? Аказваецца, можна. У вёсцы Сынкавічы Зэльвенскага раёна, недалёка ад шашы Зэльва — Слонім, узвышаецца царква Святога архангела Міхаіла. Яна згадвалася ў пісьмовых крыніцах шэсцьсот гадоў таму. Некаторыя даследчыкі старажытнасці мяркуюць, што пабудавалі яе ў пачатку XV стагоддзя. Больш таго, адно з паданняў называе заснавальнікам Сынкавіцкага храма вялікага князя Вітаўта.

***З артыкула Уладзіміра МАЗГО «Падарожжа на кірмаш», часопіс «Маладосць», № 7, 2015 год***



# Увасабленне антычнай гармоніі

Аляксандра Мікульчыка мне апісвалі як унікальнага чалавека: спартсмена-біятланіста і… паэта. Канешне, прапусціць магчымасць пазнаёміцца з такім чалавекам проста немагчыма! Разважлівы, як сапраўдны паэт, па-спартыўнаму сур’ёзны — ведае кошт кожнаму свайму слову і кожнай хвіліне. Ці не ў гэтым сакрэт яго разнастайных поспехаў?

Спортам хлопец пачаў займацца нашмат раней, чым паэзіяй. З чатырох гадоў, калі тата прывёў у басейн, Саша займаўся плаваннем, а ў 2011-м зацікавіўся біятлонам, па якім ужо мае першы дарослы разрад.

Гэта ў антычныя часы чалавек, развіты фізічна і духоўна, не выклікаў ніякіх пытанняў. А цяпер ёсць мноства стэрэатыпаў як пра спартсменаў, так і паэтаў. Галоўны з іх — прадстаўнікі першай і другой «прафесій» ніяк не суадносяцца і нават не перасякаюцца — Аляксандр разбівае ўшчэнт!

«Мне складана сказаць, што б я выбраў, калі б трэба было ад чаго-небудзь адмовіцца. Пакуль што спорт і паэзія арганічна спалучаюцца ў маім унутраным свеце. Лічу сябе даволі гарманічным чалавекам. Адмысловага “рэцэпта” шчасця ў мяне няма, бо я пакуль занадта малады для гэтага. Але адчуваю задавальненне, калі пасля доўгіх намаганняў, плённай працы дасягаю пастаўленай мэты», — кажа Саша.

Першы верш, які называецца «Мой край», Саша напісаў у 12 гадоў пад уплывам асаблівага настрою. Памятае яго і зараз:

Лес таемны, кучаравы
Палявыя васількі,
Левы бераг, бераг правы
Ціхаплыннае ракі
Гаманлівыя паляны,
Маляўнічыя лугі.
Імі край ўвесь прыбраны —
Не знайсці такі другі.

Першымі чытачамі для нашага героя былі і застаюцца мама, Рыта Васільеўна, і настаўнік беларускай мовы і літаратуры, Мікалай Юр’евіч Курыловіч. Яны

падтрымліваюць прагу Сашы да творчасці, але ўсе спробы і дасягненні ўспрымаюцца імі рэалістычна. Яны дапамагаюць удасканальвацца. Сябры па біятлоне, дарэчы, таксама цікавяцца вершамі калегі, часам нават цытуюць. Літаратурныя куміры ў паэта сур'ёзныя: Янка Купала, Якуб Колас, Іван Пташнікаў, Васілій Шукшын і Эдуард Асадаў. Самы любімы твор — грунтоўная і аб'ёмная трылогія «На ростанях» Якуба Коласа.

Аляксандр яшчэ і перспектыўны навуковец — пастаянна ўдзельнічае ў розных чытаннях, алімпіядах, канферэнцыях, конкурсах, акцыях і г. д. З апошняга: пераможца раённага літаратурнага конкурсу «Радкі, абпаленыя вайной», удзельнік гарадскога конкурсу па беларускай літаратуры «Знак таленту», прызёр Рэспубліканскай канферэнцыі «Сучаснае мовазнаўства, літаратуразнаўства і культуралогія маладых вучоных» — гэта толькі за месяц! Мае ўжо і навуковую публікацыю ў зборніку артыкулаў на тэму «Тыповыя памылкі ў маўленні радыёвядучых». Зразумела, чаму самае распаўсюджанае пытанне, якое ён чуе ў свой адрас, — «як ты ўсё паспяваеш?»

Нейкім дзіўным чынам ён знаходзіць час і на звычайную вучобу ў школе: скончыў 9-ы клас школы № 142 у Мінску з сярэднім балам вышэй за 9. З усіх школьных дысцыплін, напэўна, прасцей назваць тыя, што ён не любіць. Захапляецца беларускай мовай і літаратурай, зразумела, фізкультурай, падабаюцца матэматыка, чарчэнне і геаграфія. Саша кажа, што хацеў бы працаваць каментатарам матчаў і спаборніцтваў па розных відах спорту, быць супрацоўнікам федэрацыі Беларусі па біятлоне. За такую сваю шматбаковасць Саша вельмі ўдзячны сваім бацькам — Рыце Васільеўне і Уладзіміру Пятровічу. Сам пра сябе кажа: «Маё жыццё — гэта спорт і вершы, падзенні і ўзлёты, новыя дасягненні, пазнанне і пастаяннае імкненне да нязведанага».

Як не папрасіць падзяліцца сакрэтамі творчых сіл? Аляксандр прапануе такі «рэцэпт»: добры настрой, натхненне, палёт думкі, фантазія і шклянка соку або мінеральнай вады.

***Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***

Перапынак

# Раўчук

У гэтую гульню гулялі не толькі вашыя бабулі і дзядулі, але і іх бабулі і дзядулі. Дайшла яна да нашага часу амаль без змен. Тут не трэба быць моцным, спрытным, хуткім, гэта проста вясёлая гульня для добрага настрою.

Удзельнікі становяцца парамі адна за адной, бяруцца за рукі і трымаюць іх высока над галавой — «аркамі», утвараючы «калідор». Той, каму няма пары, ідзе да «вытоку», сягае ў «калідор», шукае сабе пару. Узяўшыся за рукі, новая пара прабіраецца ў канец «калідора» і становіцца там, а той, хто застаўся адзін, прабіраецца да «вытоку». І, як папярэднік, ідучы «калідорам», выбірае сабе таго, хто яму сімпатычны. Такім вось чынам «раўчук» рухаецца. Чым больш удзельнікаў, тым весялейшая гульня.



*Мастачка Анастасія ЖУРАВЕЛЬ, Мінская гімназія-каледж мастацтваў*

# Спіс літаратуры на лета: інструкцыя па выжыванні

*Абмеркаваць пытанні летняга чытання сабраліся неяк мінскія настаўнікі Святлана Уладзіміраўна Грыгаровіч з гімназіі № 75 імя П. Масленікава і Вольга Антонаўна Буйневіч з сярэдняй школы № 121, а таксама супрацоўнікі дзіцячых бібліятэк Юлія Мікалаеўна Сярмяжка, Валянціна Антонаўна Васілеўская (дзіцячая бібліятэка № 10) і Кацярына Уладзіміраўна Бузоўкіна (дзіцячая бібліятэка № 6). «Бярозка» падслухала іх размову і ўсё запісала.*

## ЦЯЖКАСЦІ ПЕРАКЛАДУ

— Калі прапануецца спіс па беларускай літаратуры, то вучні выбіраюць творы, перакладзеныя з беларускай на рускую мову. Але сапраўды важна, каб на беларускай мове ўзялі тэкст, таму што вучні прыходзяць і пачынаюць адказваць па творы па-руску на ўроку беларускай літаратуры. Калі вучань чытае тэкст на рускай мове, яму складана адразу перакласці і выказаць сваю думку па-беларуску.

— Вось спіс замежнай літаратуры. Калі дзеці прачытаюць гэтыя творы хаця б па-руску, то ўжо добра.

## ХТО ЧЫТАЕ? ШТО ЧЫТАЦЬ?

— Чытачы абсалютна розныя. Ёсць такія працавітыя пчолкі, якія ўжо напрыканцы мая прыходзяць са спісамі, з бацькамі, бабулямі ці дзядулямі. Лета не пачалося, а яны ўжо кніжкі ўзялі і пачалі працаваць над дзённікам чытача… Ёсць чытачы, якія з’явяцца толькі напрыканцы жніўня з жахам у вачах і вялізным спісам. Яны звычайна збіраюцца ўзяць адразу 20 кніжак, па якіх трэба ўжо паслязаўтра трымаць справаздачу перад настаўнікам. Ёсць тыя, хто ўвогуле не прыйдзе. Камусьці традыцыйная кніга ўжо непатрэбная, бо ёсць электронныя носьбіты, на якія можна ўсё «скінуць» і чытаць. Гэта зручна, але ёсць свае асаблівасці ўспрымання тэксту з гаджэтаў.

— Большасць бацькоў — за тое, каб дзеці летам чыталі праграмныя творы. Магчыма, яны мяркуюць, што лепш няхай дзіця прачытае школьныя творы за лета, каб яго потым не нагружаць чытаннем у школьныя часы, калі будуць даймаць заняткі і рэпетытары.

— А што можа на гэта сказаць вучань? Вось прачытаю я летам усе праграмныя творы, а калі буду восенню-зімой-вясной праходзіць гэта на ўроках, дык я ж да таго часу пазабываюся, і як герояў звалі, і як прырода апісваецца, і давядзецца мне перачытваць, дык навошта летам чытаць?

— Яшчэ пытанне: для некаторых чытанне — гэта асалода, а для некаторых — цяжкая праца. Хочацца адпачыць ад дзевяці доўгіх месяцаў вучобы за тры кароткія месяцы лета. Па беларускай літаратуры шмат задаюць, па рускай — столькі ж, і што — сядзі чытай усе канікулы?!

## ЯК ЧЫТАЦЬ?

— Мы да такой ступені анатаміравалі творы Дастаеўскага ў школе, што многія адкрываюць для сябе іх толькі дарослымі, і разумеюць, што Фёдар Міхайлавіч — выбітны

## ПАМЯТКІ — ВАЖНАЯ РЭЧ

**В. А. Васілеўская:** — *Прапаную зрабіць памятку, як чытаць твор. Алоўкамі можна пазначыць нейкія характарыстыкі вобраза, нарабіць закладак, завесці чытацкі дзённік, дзе запісваць самае асноўнае. І як варыянт я прапанавала б суправаджаць гэты спіс некаторымі парадамі, як правільна чытаць, і практыкаваннямі, каб захаваць зрок. Вось прыходзіць дзіця з такім спісам, а мы яму раз — і закладку з карыснай інфармацыяй.*

пісьменнік. А да Чарнышэўскага ўвогуле не вяртаюцца, настолькі адбіта ахвота чытаць. Што з гэтым рабіць? Усе дарослыя пагалоўна кажуць, што школа адбіла ахвоту чытаць.

## ШТО РАБІЦЬ?

— Такое ўражанне, што ў праграмах па літаратуры не прадугледжана, што, акрамя літаратур, у школьніка яшчэ і матэматыка, і фізіка, і хімія, і шмат іншых прадметаў, да якіх таксама трэба рыхтавацца.

— А тут трэба спрачацца. Можна не ўспомніць праз 20 гадоў формулу вытворчасці сернай кіслаты, але калі вы нешта не дачыталі і не задумаліся ў свой час над нейкім пытаннем… Добрая кніга абавязкова падштурхне да развагі.

— Можа, праблема ў тым, што сёння па праграме адзін дзень праходзяць аднаго аўтара, другі — іншага, і паспрабуй потым разабрацца.

— Мы рэкамендуем прыходзіць у бібліятэку на сустрэчы з пісьменнікамі, каб зацікавіцца іх творамі. У нас жа ёсць жывыя класікі. Пасля сустрэчы з Яўгеніяй Пастэрнак і Андрэем Жвалеўскім у нас разабралі ўсе іх кнігі. Калі Генадзь Аўласенка прыходзіў, падлеткі пахіхікалі (трэба ведаць падлеткаў), а потым ціхенька пайшлі ў аддзел фантастыкі і паразбіралі яго кніжкі таксама.

**В. А. Буйневіч:** — *Я працую настаўнікам ужо шмат год і да гэтага спісу стаўлюся дэмакратычна. Калі вучань прачытае не 15 твораў, а хаця б 6, гэта вельмі добра. На першым занятку па беларускай літаратуры я абвяшчаю, што дзесьці праз месяц будзе ўрок пазакласнага чытання, з абмеркаваннем твораў, прачытаных за лета. Тыя, хто не чытаў, у верасні бягуць у бібліятэку. Да гэтага ўрока трэба рыхтавацца як да адкрытага ўрока. Я планую яго, пытаючыся загадзя, хто што чытаў, аб'ядноўваю творы па тэмах. І калі браць, напрыклад, пятыя класы, яны яшчэ і малюнкі прынясуць. І ўрок прыгожы атрымліваецца. А яшчэ я кожны ўрок пачынаю з верша. Прызначаю, хто на якім занятку выразна прачытае верш і прааналізуе яго. Так мае вучні прызвычайваюцца чытаць.*

## ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

— Самы непрыемны момант — гэта калі вучань потым прыходзіць з мамай і кажа: мы, маўляў, чыталі, стараліся, а настаўніца нават не праверыла. І хочацца паспачуваць яму, бо так прыемна, калі выкладчык адзначае, колькі ты прачытаў, і ці зрабіў малюнкі або іншыя творчыя заданні.

— У некаторых малодшых класах даюць спісы не з канкрэтнымі аўтарамі і творамі, а тэматычныя. Вучань ідзе ў бібліятэку і раіцца з бібліятэкарамі, што можна прачытаць па гэтай тэме, і потым абмяркоўвае гэта на ўроку. Такая форма працы падаецца больш удалай, таму што дазваляе разгледзець на ўроку большую колькасць твораў. Ці, як варыянт, даваць спіс аўтараў і магчымасць выбару з іх твораў.

*Анатоль ЗЭКАЎ*

# Правільныя вершы

*«Бярозка» рэкамендуе:*
- *настаўнікам бел.мовы*
- *вучням, у якіх бел.мова «кульгае»*






**Анатоль Зэкаў, вядомы беларускі пісьменнік, — даўні сябар «Бярозкі»: першыя яго публікацыі з'явіліся на старонках нашага часопіса яшчэ на пачатку 1970-х, калі паэт сам быў школьнікам.**

## УДВУХ, УДЗВЮХ, УДВАІХ

Над лічэбнікамі Ганна
Дзень праседзела.
Старанна
Вывучыла ўсе,
вось толькі
Цяжка ёй далася двойка.

Як бы ні было складана,
З двойкай справілася Ганна
І гатова ўсім сказаць,
Як лічэбнікі пісаць:

Дзе два хлопчыкі — *удвух*,
Дзе дзяўчынкі дзве — *удзвюх*,
Дзе яна і ён — на іх
Кажуць, што яны *ўдваіх*.

Хіба так усё складана?
Вось парада вам ад Ганны:
Каб памылак не рабіць,
Гэта трэба завучыць.

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Засвоіла выдатна Маша,
Калі чытала кніжку:
На мове беларускай нашай —
Як чуем,
Так і пішам.

І ведае цяпер малая:
На мове нашай роднай
І «о», і «ё» мы вымаўляем
Пад націскам заўсёды.

Зусім не трэба «оло», «оро»
Запамінаць больш Машы,
Бо словы «малако», «карова»
Як пішам,
Так і кажам.

Са школы прыйдзе вучаніца
І брацiку раскажа:
О, як жа хораша вучыцца
На мове роднай нашай!

## ЛІТАРЫ

Літары бываюць розныя.
Ёсць зычныя,
А ёсць галосныя.
Яны — галосныя і зычныя —
Для нас знаёмыя, прывычныя.
А словы скласці каб і сказы,
Патрэбна іх паставіць разам,
Бо ў россып, не было б іх колькі,
Яны ўсё ж літары — і толькі.

## ПА-БЕЛАРУСКУ І ПА-РУСКУ

Вучыць мову рускую
Глеб
і беларускую.

Мовы блізкія, аднак
Глеб на мове беларускай
Словы звязвае не так,
Як звязаў бы іх па-руску.

Усвядоміў добра Глеб,
Што на мове нашай трэба
Па *ваду пайсці, па хлеб,*
А не *«за вадой і хлебам»*.

І яшчэ, апроч таго,
Як хто кпіць па-беларуску,
Дык патрэбна *кпіць — з каго*,
А *«над кем»* — калі па-руску.

З тропу не саб'еш больш Глеба,
Бо вядома ўжо яму,
Не *«кого»* прабачыць трэба,
Як па-руску, а *каму*.

Тое ж з *дзякаваць* таксама
І, вядома, з *дараваць*.
Вучыць Глеб і тату з мамай,
Як ім правільна казаць.

Шмат са словамі турбот,
Ды і тут бяды ніякай,
Бо мужчынскі маюць род
*Боль, медаль, палын, сабака*.

Як вучыцца —
пэўна, трэба
Павучыцца ўсім у Глеба.

## МЯККІ ЗНАК

Мяккі знак не вымавіш.
Аднак,
Як усё ж ты ні круціся,
Нам без знака гэтага ніяк,
Ну, ніяк не абысціся!
Ці сухмень на вуліцы, ці золь,
Ці наўсцяж завеі сцюжаць...
Без яго і соль зусім не соль,
Бо ўжо цвёрдая задужа.
Вось такі, сябры, дзівак
Гэты просты мяккі знак.

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ

Дзе — пытальнік, клічнік, кропку,
Дзе — двукроп'е і працяжнік
Расстаўляе нетаропка
Косцік, правілы згадаўшы.

У тых правілах, як звычна,
Ўсё тлумачыцца дазвання:
Радасць выказаў — стаў клічнік,
Запытаў пра што — пытальнік.

Кропка — там, дзе канстатуеш,
А дзе што абагульняеш,
Дык зусім не панікуеш,
А заўжды двукроп'е ставіш.

А яшчэ не меней важна —
Косцік гэта добра знае —
Не забыцца на працяжнік
Там, дзе нешта ўдакладняеш.

Пералічваеш прадметы —
Раздзяляеш словы коскай.

Будзеш правілы ўсе ведаць —
То й вучыцца будзе проста.



## ДЗЕ СТАВІЦЬ НАЦІСК?

Трэба ведаць так,
Як двойчы два,
Што пад націскам павінны
Вымаўляць мы: «вусы, крапів*а*,
Навін*а*, фартух і сп*і*на».

## Е, Ё, Я

Перад націскам у першым складзе
**Я** замест **е**, **ё** выводзіць Надзя.
Піша: лес — лясны, а мёд — мядовы...
Вы запомніць правіла гатовы?

Толькі вось чаму, мо скажа хто,
Пішам мы:
Перон, метал, метро?

## СКЛАДОВАЕ І НЕСКЛАДОВАЕ

Бы веды нашы выпрабоўвае
**«У»** кожны раз,
І так пры тым стараецца:
Пасля галосных **«У»** складовае
**«Ў»** нескладовае ператвараецца.

## СУСЕДНЯЯ МЯККАСЦЬ

Як цвярдзець **З** і **С** ні стараюцца,
Мякка ўсё ж і яны вымаўляюцца.
Хоць у словах знак мяккі не пішам,
Ды яго прамаўляем, між іншым,
Кожны раз перад мяккімі зычнымі,
Што для **З** і для **С** — справа звычная:
Сцежка, звер, песня, свечка, змей, спіна...
Гэта школьнікі ведаць павінны.

***Мастачка Анастасія ЖУРАВЕЛЬ,***
***Мінская гімназія-каледж мастацтваў***

Мастачка Юлія УСАВА



Ана ДУДАШ

# Цімафеева дружына даследчыкаў космасу

Перш за ўсё прадстаўлюся: я — Верачка з Мінска, малодшая сястра славутага даследчыка (час гэта абавязкова пацвердзіць) касмічных прастораў — Цімафея, якога мы ласкава называем Цімоша.

Не ведаю, што адбываецца з маім братам, але, пэўна ж, высветлю. Ён у апошні час пазбягае мяне, праганяе ад сябе і ад сваіх таварышаў, з якімі лазіць на гарышча нашага дома. Яны там нешта робяць, размаўляючы шэптам. Я ціхенька падкрадаюся на дыбачках, як балерына, настаўляю вушы — аднак нічога не чую! А нават калі і дойдзе якое слова, я не разумею, што яно значыць. Нібыта яны не па-беларуску гавораць...

У іх там гара кніг — і ўсе разгорнутыя. А хлопцы ў задуменні над іх старонкамі круцяць галовамі і перагаворваюцца. І, як мне здаецца, чым больш яны гавораць, тым цішэй. Кожны з іх, відаць, стараецца даказаць нейкую сваю праваду. А яшчэ ў іх там, чаго я ніяк не магу зразумець, ёсць нейкая доўгая труба, у якую яны час ад часу глядзяць, нешта абмяркоўваюць і запісваюць...

Дык вось пытаюся ў самой сябе: а ці ж я добрая сястра, калі нічога пра гэта не кажу маме і тату. З аднаго боку, расказваць ім — нядобра, бо, выходзіць, што я даносчыца, ябеда. Але маўчаць — таксама нядобра. Бо калі хлопцы вычвараць штосьці непрымальнае, тады мяне ўсё жыццё будуць папракаць за тое, што я маўчала. А гэта прыкра!

Відаць, трэба будзе ўзяць з сабою нататнік і ручку, запісаць тыя незнаёмыя словы, якія хлопцы прамаўляюць, а потым папытацца ў дзеда, што яны значаць. Я вось чула, як яны казалі нешта пра «палёт Лайкі». Як я спалохалася тады! Спусцілася па лесвіцы і хуценька праверыла, ці на месцы наша Лайка... Тая драмала сабе, як заўжды, у сваёй будцы. І нават калі ўпэўнілася, што наша Лайка спакойненька дрэмле, я ўсё роўна не магла зразумець, чаго хлопцы пра яе згадвалі. І баялася, каб чаго кепскага ёй не ўтварылі... Бо якая ж сувязь у Лайкі з іхнімі кнігамі і з тым страшным прыстасаваннем у выглядзе доўгай трубы, праз якую яны глядзяць удалячынь ды нешта запісваюць...

***Ана Дудаш нарадзілася ў Сербіі, сярод маляўнічых пейзажаў Ковачыцы — там, дзе жывуць таленавітыя людзі, вядомыя сваім наіўным жывапісам. Для дзяцей выдала тры раманы, тры кнігі кароткіх апавяданняў, сем зборнікаў вершаў і восем маляванак. Апавяданне «Цімафеева дружына даследчыкаў космасу» — з новай кнігі пісьменніцы «Праўдзівыя і нібыта сапраўдныя гісторыі».***

Не дай Божа, каб гэтая труба ім паслужыла для таго, пра што я падумала, паддаўшыся фантазіі! Спадзяюся, не будзе Лайка выкарыстана ў якасці гарматнага ядра і запушчана ў паветра на выпрабаванне, колькі можа вытрываць? Не-не! Цімошка ж таксама любіць Лайку. Яна ў нас даўно, і ўсе мы яе любім, бо яна адданая і вельмі ласкавая. Калі спускаем яе з ланцужка, яна ходзіць за намі так, як быццам хоча абараніць нас ад нейкага ворага, якога толькі яна можа сваім нюхам адчуць. Не, хлопцы Лайку не павінны пакрыўдзіць. А чаго ж яе згадваюць?!

За абедам я пільна ўглядалася ў Цімошу. Ён не разумеў майго погляду, таму задаў пытанне:

— Чаго глядзіш на мяне так, быццам я ў нечым перад табою вінаваты?

— Напэўна вінаваты! Калі яшчэ не правініўся, то намерыўся! — сказала я рэзка і галасна, каб усе за сталом чулі, і ўдакладніла: — А Лайку не крыўдзіш?

— Што-о-о?.. Лайку? Абы-што гаворыш... Хіба я Лайку люблю не так, як ты?

— Ага!.. А чаму цябе адзін з сяброў называе Капітан Кук? Ага!.. Адкажы! Ну, адказвай! І чаму гэта вы ў размовах са сваёй дружынай згадваеце Лайку і нейкі «Спадарожнік-2»?! Гэта, напэўна, нейкая таямнічая назва знішчэння сабачкі...

У нашу спрэчку, як звычайна, з усмешкаю на твары ўмяшаўся дзядуля:

— Хіба Цімошу завуць Капітанам Кукам? Дык гэта ж добра! Яго параўноўваюць з вялікім даследчыкам. Ведаеш, Верачка, гэта быў вялікі мараплавацель,

ён адкрыў усходні бераг Аўстраліі і шматлікія астравы ў Ціхім Акіяне. Ён таксама першым здейсніў кругасветнае падарожжа з Захаду на Усход.

— А я са сваімі сябрамі даследую космас у той меры, у якой гэта можна з нашым невялічкім тэлескопам. Ды хто ведае! Можа, аднойчы і мы адкрыем у сонечнай сістэме штосьці такое, чаго пакуль яшчэ не заўважылі.

— Ну, а Лайка? Якое дачыненне яна мае да вашых даследаванняў сусвету і да той трубы, у якую вы цэлымі днямі глядзіце? — не без злосці, але ў той жа час прысаромлена, запытала я.

— Калі не разумееш, то лепш памаўчы і моўчкі глядзі...

Тут зноў у размову ўключыўся дзядуля, каб сваім аўтарытэтам прыпыніць сварку і ўсталяваць мір паміж намі. Ён сказаў:

— Верачка, ты яшчэ не ведаеш, што Лайкаю завецца не толькі наша сабака. Была яшчэ і славутая Лайка, якую прыкладна паўстагоддзя таму на касмічным апараце, які называўся «Спадарожнік-2», адправілі ў космас. Гэты спадарожнік лётаў вакол зямлі...

— Ага! Такія словы і хлопцы прамаўлялі, а я, значыць, не зразумела і перакруціла...

Тут усе засмяяліся. А мама з усмешкаю ласкавым голасам прамовіла:

— Калі вырасцеш, і ты зразумееш вельмі істотнае: чалавек багаты, калі ў яго багаты ўнутранны свет. Я сама здзівілася, што наш Цімоша такі цікаўны, што ён сур'ёзнымі пытаннямі займаецца. Пакуль гэта здаецца наіўным, але магчыма, калі будзе да гэтага імкнуцца, ён сапраўды раскрые нейкую таямніцу космасу. А для гэтага ёсць усе магчымасці.

Я прысаромлена апусціла галаву. Выходзіць, я падазравала ў нядобрым брата толькі з-за таго, што мала ведаю. Буду старацца, каб і мяне прынялі ў тую дружыну даследчыкаў космасу. А Цімоша нібыта прачытаў мае думкі:

— Што ж, ты магла б быць падобнай да Валянціны Церашковай, якая сорак восем разоў абляцела вакол зямлі.

Я і далей маўчала, аднак спадзявалася, што хоць нічога не ведаю пра Валянціну Церашкову, але буду імкнуцца ўслед за ёю.

***Пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ і Цімафея ЧАРОТЫ***

Перапынак

# Сапсаваны тэлефон

Удзельнікі сядаюць на лаўку ці канапу. Вядучы (той, хто з краю) загадвае слова і шэпча на вуха суседу як мага цішэй і хутчэй. Сусед шэпча тое, што пачуў, наступнаму, гэтаксама хутка і ціха, той шэпча далей… Самы апошні ў ланцужку называе слова, якое пачуў. Яно заўсёды вельмі адрозніваецца ад загаданага вядучым. І чым больш розніцы ў словах, тым весялей гульня.




*Райхан МАЖЭНКЫЗЫ*

# Таямніца Жырафы

У лесе — шум і гам! Жывёлы просяць адзін у аднаго суюншы — узнагароду за радасную вестку: «Нарадзілася Жырафа!».

Ва ўтульным лясным гушчары, дзе нарадзілася Жырафа, сама прырода разаслала каляровы дыван з духмяных кветак. Побач раскінуліся расточкі дрэў, а воддаль качаліся на лёгкім вятрыску маладыя таполі. Тут валадарыла царэўна-прырода.

Нованароджаная Жырафа пазірала на свет з вялікай цікавасцю.

Вось яе позірк упаў на ваду, па роўнядзі якой слізгалі лісточкі. Жырафа ўбачыла ў вадзе мноства камянёў. Не губляючы час, яна з дапамогай сваіх маленькіх рожкаў ачысціла ручай ад камянёў.

Ручаёк радасна пабег па сваім русле і звонка сказаў: «Дзякуй!» Жырафа моўчкі і сарамліва кіўнула галавой.

Маленькая Жырафа адправілася далей. Яна сустрэла мурашак, яны старанна адпілоўвалі адзін ліст за другім. Іншыя мурашкі адцягвалі зрэзаныя лісточкі ў мурашнік. Якія яны працалюбівыя!.. Але тут адзін з мурашоў выпадкова выпусціў на зямлю лісток… Жырафа падняла яго.

— Дзякуй табе, добрая душа! — падзякаваў Мураш.

Вось так, дапамагаючы ўсім і радуючыся за ўсіх, расла-падрастала Жырафа.

Аднойчы Жырафа сустрэлася з двума бабрамі, яны дружна грызлі ствол тоўстага дрэва. Хутка і спрытна яны ссеклі дрэва ды, адцягнуўшы ўбок, узяліся будаваць хаціну. Жырафа дапамагла бабрам заслаць падлогу галінкамі.

Па душы Жырафе прыйшлося працалюбства баброў. Сваёй дапамогай яна хацела выказаць ім павагу. Падзякаваць бы яшчэ словамі, але… — бабры апярэдзілі яе.

Яны хорам сказалі Жырафе: «Дзякуй!».

І Жырафа раптам адчула, што ў яе пачала расці шыя. Яна адправілася далей. Пакуль не сустрэла Зайчаня, якое ўцякала ад Лісіцы.

— Дапамажыце! Ратуйце!

Зайчаня дрыжэла ад страху перад Лісіцай, якая імкліва яго даганяла. Тады Жыраф нахіліўся і пасадзіў сабе Зайчаня на спіну. А хітрая Лісіца кінулася прэч.

— Дзякуй, — прамармытала Зайчаня. — Вы такая прыгожая, як і мая мама! І вопратка ваша вельмі незвычайная, ні ў кога такой няма! Я ледзь не патрапіў у бяду, таму што выйшаў з нары без дазволу, не паслухаў маму.

Вось так Жырафа прыходзіла ўсім на дапамогу. І не заўважыла, як праляцеў немалы час.

Яна працягвала бяспечна ісці наперад, як раптам пачула моцны крык. Што за шум? Высветлілася, што  усё тая ж гультаяватая Лісіца выгнала Барсука з вырытай ім нары і пасялілася ў ёй, быццам гэта быў яе ўласны дом. Жырафа моўчкі засунула сваю доўгую шыю ў нару і выцягнула за кончык хваста гультайку-Лісіцу!

Кожны раз, калі Жырафе дзякавалі, у яе вырастала шыя і рост павялічваўся. Гэта прынесла ёй несумненную карысць. Лісіца знізу ўверх спужана зірнула на Жырафу і — зноўку ўцякла. А Барсук падзякаваў і паспяшыў у сваю нару — змяніць коўдру з травы. Жырафа моўчкі выказала сваё задавальненне: які ж ахайны гэты Барсук!..

Дзень пры дні Жырафа станавілася ўсё прыгажэйшай.

Аднойчы сустрэлася пчала, якая лётала з кветкі на кветку. Яна расказала, што яе сябар Мядзведзь неймаверна любіць мёд, які яна збірае ў падарунак яму на дзень нараджэння.

Жырафа і Пчала ўдвух адправіліся да Мядзведзя ў госці. Мішка з радасцю прыняў гасцей. Стол ламіўся ад страў ды прысмакаў гаспадара: арэхаў і ягад. Пчала падаравала Мядзведзю мёд.

Удзячнасць Мядзведзя напоўніла ўвесь лес цеплынёй і пяшчотай. Жырафа адказала яму прыветлівым позіркам.

Новыя сустрэчы Жырафы з добрымі сябрамі ў лесе дапамагалі расці ўсё вышэй і станавіцца яшчэ болей высакароднай.

Вось толькі… Расказаць бы пра ўсё гэта іншым жырафам?.. Але тут думкі парушыла шапаценне ў галінках дрэў. Жырафа ўбачыла невядомую жывёлу, якая чаплялася за галінку. Істота не мела сіл, каб перабрацца з адной галінкі на другую, а ўбачыўшы прыгожую Жырафу — зусім аслупянела ад здзіўлення. Але гэта не памяшала дзіўнай істоце вымавіць:

— Прывітанне! Я — Лянівец…

Жырафа моўчкі паглядзела на Ляніўца, які падчапіўся да галінкі трыма пальцамі нагі.

Яна дапамагла самай марудлівай з усіх жывёлін — Ляніўцу — перабрацца на іншую галінку, а сама пайшла далей.

З часам Жырафа настолькі вырасла, што ўжо здалёк бачыла, што і дзе ў лесе робіцца. Нейк запрыкмеціла на галінцы павуцінку. Павук старана плёў новую сетку. Вось гэта здорава!

Жырафа зачаравана дзівілася павуцінкай. Але тут пачула рэзкі воплеск! І з жалем убачыла, як Хамелеон, які сядзеў непадалёку, схапіў доўгім языком Павука і праглынуў яго.

Жырафа асуджальна паглядзела на Хамелеона. Павуцінка ёсць. А Павука няма. Вочы жырафы напоўніліся слязьмі.

Дні ішлі адзін за адным і аднойчы Жырафа выпадкова сустрэла Ваўка, які ляжаў на зялёнай траве і зубамі выцягваў з лапы калючку. Затым аблізаў ступню і адпачываў, паклаўшы лапу на прахалодную траву. А калі Жырафа наблізілася, Воўк з разумным выглядам сказаў:

— Вось бачыш, сам сабе лекар.

«Як цікава! Воўк лечыць сябе сам», — падумала Жырафа.

— Хадзем, паабедаем разам. У мяне прыхаваны пачастунак. Люблю эканоміць прадукты. Я іх хаваю не ў адным, а ў некалькіх мясцінках, — запрасіў Воўк Жырафу. Жырафа вельмі здзівілвася, што Воўк нешта разумее ў эканоміі, але абедаць з ім ветліва адмовілася.

Замест гэтага яна агледзелася вакол. На дрэве ўбачыла, як Верабей засцілае гняздо пухам.

— Вой, глядзіце! Што ж гэта робіцца! У маленькае гняздзечка, якое збудаваў Верабей, зязюля падклала свае яйкі і цішком адляцела! — Жырафа, вачам сваім не верачы, пазірала на Зязюлю — самую гультаяватую і дрэнную матулю! Яна нават паленавалася будаваць гняздо для птушанят.

Пакрыўджаная ўчынкам зязюлі, Жырафа аслупянела на ўзлеску, але тут пачула прарэзлівае: «Ква-ква!». Прыгажуня Жырафа стала аглядацца па баках. Гукі паўтарыліся і, здавалася, ішлі з-пад ног Жырафы: усё «ква-ква» ды «ква-ква»! Яна нахілілася і ўбачыла ўнізе невядомую істоту, з кароткай грудкай, без шыі, вушэй і хваста.

Істота падскочыла да Жырафы і заявіла:

— Я — Жаба, жыву ў брудзе і ў вадзе.

Жырафа прыгледзелася: калі ў яе пярэднія ногі даўжэйшыя, то ў Жабы наадварот — заднія ногі ў тры-чатыры разы даўжэйшыя за пярэднія. Тут усе жабы акружылі Жырафу і заквакалі ва ўвесь голас, быццам перакліканіся адна з адной на сваёй, толькі ім зразумелай мове. А самая тлустая Жаба сказала:

— Якая прыгожая Жырафа!

Другая прамовіла:

— Якая доўгая шыя ў Жырафы! Яна можа зрываць з дрэў лепшыя плады.

А трэцяя дадала:

— Якія доўгія пярэднія ногі! Яна можа ўбрыкнуць нават цара звяроў — Льва. Да таго ж яна хутканогая, як Антылопа.

А яшчэ адна гучна здзіўлялася:

— Яна ж такая высокая! Усё бачыць вакол!

А самая высокая, добрая і моцная Жырафа нічога не магла сказаць — яна пакуль што не ведала іх мовы…

***З казахскай. Пераклаў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

# Бярозка

захапляцца і захапляць



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА





Адрас рэдакцыі

Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.



Падпісныя індэксы:
74879 — льготны
74822 — індывідуальны
748222 — ведамасны

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. АЎЛАСЕНКА
Рэдактар:
К. В. ЗАХАРЭВІЧ
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. КІРЭЕНКА
Камп'ютарны набор:
А. Г. КАХНОЎСКАЯ
Стылістычны рэдактар:
К. С. ГОЛУБ

Падпісана ў друк 03.08.2015 г.
Фармат 60x84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк 4,98.
Тыраж 908 экз. Заказ 933.
Кошт нумара ў розніцу 16 500 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск






**Клуб сяброў часопіса**

*Фарміруецца з кожным нумарам, складаецца са школ аўтараў (вучняў, бацькоў і настаўнікаў), а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў.*

Мінская дзяржаўная гімназія-каледж мастацтваў, Бараўская СШ (Дзяржынскі раён), Гудагайская СШ (Астравецкі раён), Дворнасельская СШ (Міёрскі раён), Ждановіцкая СШ (Мінскі раён), Залеская СШ (Чачэрскі раён), Калодзішчанская СШ (Мінскі раён), Мар'інагорская гімназія, гімназія № 2 (Вілейка), гімназія №1 (Свіслач, Гродзенская вобласць), гімназія №1 (Чэрвень), Міханавіцкая СШ (Мінскі раён), Сапоцкінская СШ (Гродзенскі раён), Чапукоўская СШ (Міёрскі раён), СШ № 12 (Гродна), СШ № 1 (Докшыцы), Параф'янаўская СШ (Докшыцкі раён), СШ № 1 (Глыбокае), СШ № 1 (Ельск), СШ № 25 (Мінск), СШ № 34 (Мінск), СШ № 64 (Мінск), СШ № 129 (Мінск), СШ № 136 (Мінск), СШ № 165 (Мінск), СШ № 201 (Мінск), СШ № 207 (Мінск), гімназія № 1 імя Ф. Скарыны (Мінск), гімназія № 10 (Мінск), гімназія № 11 (Мінск), гімназія № 12 (Мінск), гімназія № 22 (Мінск), гімназія № 29 (Мінск), гімназія № 30 (Мінск), гімназія № 75 імя П. Масленікава (Мінск), СШ № 9 (Маладзечна), гімназія № 10 (Маладзечна), гімназія № 2 (Гродна), СШ № 32 (Магілёў), СШ № 3 (Пружаны), Пружанская гімназія, Пагосцкая СШ (Салігорскі раён), Коханаўская СШ імя І. П. Кажара (Талачынскі раён), СШ № 1 (Пінск), Гарадзішчанская СШ (Пінскі раён), ліцэй № 1 (Мінск), ліцэй № 2 (Мінск), гімназія № 35 (Мінск), гімназія № 16 (Мінск), СШ № 15 (Баранавічы), СШ № 38 (Мінск), Зажэвіцкая СШ (Салігорскі раён), СШ № 20 (Мінск), СШ № 10 (Барысаў), Асіповіцкая гімназія, Забалоцкая СШ (Воранаўскі раён), Вялічкавіцкая СШ (Салігорскі раён), гімназія № 61 (Мінск), СШ № 77 (Мінск), Сакалоўская СШ (Чэрыкаўскі раён), Уладзімір Міхайлавіч Голубеў (Мінск), Гезгалаўская СШ (Дзятлаўскі раён), гурток «Юны журналіст» (Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, Петрыкаў) гімназія № 23 (Мінск), СШ № 4 (Мар'іна Горка), клуб даследчых экспедыцый «Выток» (Мінск), Шчучынская гімназія.

*На першай старонцы вокладкі — малюнак Анастасіі Журавель, Мінская гімназія-каледж мастацтваў.*

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** У арфы іх чатыры, у домбры і гітары па шэсць. А колькі іх у піяніна?
**2.** Тры, тры, тры і тры. Што атрымаецца?
**3.** Які горад умее лётаць?
**4.** Што і сырым не ядуць, і калі згатуюць выкідваюць?
**5.** На якое дрэва садзіцца варона ў час дажджу?
**6.** З якога посуду нельга нічога з'есці?
**7.** Адзін французскі пісьменнік XIX стагоддзя вельмі не любіў Эйфелеву вежу, але пастаянна абедаў у рэстаране на другім паверсе гэтай вежы. Як ён гэта тлумачыў?
**8.** Сем сясцёр на лецішчы, і ўсе занятыя: першая чытае кнігу, другая — смажыць катлеты, трэцяя — гуляе ў шахматы, чацвёртая — разгадвае крыжаванку, пятая — мые бялізну, шостая — прапалвае градкі. Чым займаецца сёмая сястра?
**9.** Як пакласці аловак на падлогу так, каб ніхто не мог праз яго пераступіць?




***Дзяўчынка ў аптэцы плача:***

***— Мама паслала мяне за лякарствам, а я назву забылася. Кароткая такая назва, просценькая, а я ніяк не ўспомню! Памятаю толькі, што ў склад уваходзіць гідраксіметыламінатрыфенілацэтат…***

— Колькі гадоў твайму брату?
— Адзін год.
— Дзіўна, майму кацяняці таксама адзін год, а бегае ён куды лепей, чым твой брат.
— І што тут дзіўнага? У яго ж ног у два разы болей.

***— Бабуля, бабуля! А чаму ў цябе такія вялікія вочы?***
***— Гэта каб цябе, унучачка, лепей бачыць!***
***— А чаму ў цябе, бабуля, такія вялікія вушы?***
***— Гэта каб цябе, унучачка, лепей чуць!***
***— А чаму ў цябе, бабуля, такі вялікі нос?***
***— Дык сланы мы, унучачка! Сланы!***

— Чаго гэта ў цябе рука забінтавана?
— Ды дзятла ўчора з далоні вырашыў пакарміць!

## Падарунак ад Вожыка

Вожык
Часопіс сатыры і гумару




*Мастак Алег КАРПОВІЧ*

Адказы на пытанні для знаходлівых:
1. У слове «піяніна» — 7 літар.
2. Дзірка.
3. Арол.
4. Лаўровы ліст.
5. На мокрае.
6. З парожняга.
7. Гэта адзінае месца ў Парыжы, дзе самую Эйфелеву вежу не бачна.
8. Гуляе ў шахматы з трэцяй.
9. Ля сцяны.

*Мінская гімназія № 75 прадстаўляе*

# ДОМ РУМЯНЦАВЫХ





*Макет летняга дома Румянцавых (Гомель). Аўтар — Вольга Егорына. Кіраўнік — Тацццяна Васільеўна Вайтэнка.*

Невялікі дом з мезанінам у Гомелі на Пушкіна, 32 цяпер музей, а некалі быў летняй рэзідэнцыяй графа Мікалая Румянцава. Граф, праўда, валодаў ім нядоўга. Новым гаспадаром дома ў першай палове XIX стагоддзя стаў заможны гамяльчанін Вінцэнт Крушэўскі. Пры ім гэты дом як пачалі называць паляўнічым, так да сёння і называюць. Але, паўторым, гэта музей. Яго памяшканні — малая гасціная, кабінет, сталовая, спальня і іншыя — дэманструюць інтэр’еры, узоры рэчаў і сервіроўкі ранейшага часу. Шмат якія прадметы выклікаюць пытанне: «А для чаго гэта выкарыстоўвалася?». Іншымі словамі, гэты дамок трэба неяк наведаць…

